

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС


Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 606 Люты, 2014 г.
Год выданьня 65


## Шаноўныя чытачы!

Прадстаўляем вашай ўвазе лютаўскі нумар нашай газэты. Мы адкрываем яго віншаваньнямі з надыходзячым вялікім сьвятам для ўсіх беларусаў незалежна ад месца іх пражываньня - Днём Волі. Гэта вясновае сакавіковае сьвята аб'ядноўвае ўсіх нас дзеля ўшанаваньня найвялікшага гістарычнага дасягненьня нашага народу - абвяшчэньня дзяржаўнай незалежнасьці. У наступным выпуску мы падамо інфармацыі, як будзе адзначацца Дзень Волі беларусамі ў эміграцыі і на Бацькаўшчыне.

Значную ўвагу мы надаем і самай балючай тэме гэтых дзён - падзеям ва Украіне. У папярэдніх выпусках мы асьвятлялі тое, што адбывалася на Майдане, з надзеяю, што змаганьне ўкраінцаў за волю скончыцца перамогаю. Так яно і сталася, але цяжэй аказалася ўтрымаць гэтую перамогу, замацаваць яе, зрабіць яе вынікі незваротнымі. Таму "Бітва за Украіну" працягваецца, і мы далей пішам пра гэтыя драматычныя падзеі.

Друкуем мы ў гэтым нумары глыбокія развагі і аналіз сытуацыі ў Беларусі палітвязьня Ігара Аліневіча. Пераклад на беларускую мову з расейскай зрабіла і даслала нам сп-ня Валянціна Трыгубовіч. Раім не пашкадаваць часу, каб прачытаць гэты тэкст.

Даведаецеся вы і пра падзеі з жыцьця беларускіх эміграцыйных асяродкаў у іншых краінах.

На жаль, не абышлося гэтым разам без сумнай старонкі, дзе мы ўшаноўваем памяць тых нашых сяброў і вядомых постацяў, хто пакінулі гэты сьвет апошнім часам.

Некаторыя з вас будуць мець прыемнасьць знайсьці свае імёны ў надрукаваным сьпісе ахвярадаўцаў. А некаму гэты сьпіс падкажа думку і самому трапіць ў шэрагі ахвярадаўцаў у наступным нумары газэты.

Жадаем прыемных уражаньняў ад прачытаньня гэтага сёлетняга апошняга зімовага выпуску "Беларуса". Да новых сусустрэч!

*Рэдакцыя*

## ДЗЕНЬ ВОЛІ 2014



## Дарагія Суродзічы!

Зьвяртаюся да вас сёньня з трывогай на душы. Падзеі на Украіне паказалі сьвету, да якой скрайнасьці Масква гатовая пайсьці, каб вярнуць імпэрыю. Не зважаючы на законы міжнароднага сужыцьця, на міжнародныя - ёю падпісаныя - дагаворы і на аднагалоснае асуджэньне ўсяго сьвету, Расея напала на суседнюю дзяржаву пад выдуманым прэтэкстам небясьпекі, якая, маўляў, пагражае «рускамоўнаму» насельніцтву гэтае дзяржавы. У трыццатыя гады напад на суседнюю дзяржаву пад падобным прэтэкстам быў першым крокам да найстрашнейшай сусьветнай вайны, якую перажыло чалавецтва.

Для Беларусі маскоўская агрэсія на Украіну асабліва трывожная. Бо калі сьвет адэкватна не зрэагуе, мы можам стацца наступнай ахвярай маскоўскага імпэрыялізму. Прэтэкст будзе той самы: рускамоўнае насельніцтва Беларусі.

Дарагія Суродзічы! У 96-я ўгодкі нашага слаўнага 25-га Сакавіка, дзякуючы якому Беларусь яшчэ жыве, заклікаю вас годна адзначыць гэты Дзень. Гэтым вы прыпомніце сьвету, што і вы хочаце быць гаспадарамі на сваёй зямлі.

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі выказваю салідарнасьць з Украінскім народам і ягонымі героямі, якія сёньня змагаюцца супраць пуцінскай «імпэрыі зла». Не давайце рэжыму ўцягнуць вас у гэтую імпэрыю. Мы на баку цывілізаванага сьвету, а не дзікіх агрэсараў.

Дык слава Украіне ў змаганьні!
Жыве беларуская Беларусь!

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады БНР*
*Сакавік 2014г.*

## Дарагія сябры!

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сардэчна віншуе вас з надыходзячым Сьвятам 25 Сакавіка!

На чужыне ўсе мы адчулі і зразумелі, як гэта важна мець за сабою краіну, нацыю, не быць "перакаці-полем", мець свае карані і сваю гісторыю. Сярод іншых народаў мы называем сябе беларусамі і ганарымся тым, што можам паказаць на мапе сьвету нашым новым сябрам краіну пад назваю "Рэспубліка Беларусь" - нашу Бацькаўшчыну.

Але такой магчымасьці магло і не быць, каб у сакавіку 1918 году лепшыя сыны беларускага народу не ўзялі на сябе сьмеласьць вырашыць лёс сваёй краіны пасьля распаду Расейскай імпэрыі, што трымала нас пад няволяю. У тыя вясновыя дні, калі адраджалася да новага жыцьця ўся прырода, адрадзілася і наша Бацькаўшчына. Абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году дало пачатак новай гісторыі Беларусі.

Будаўніцтва адроджанай беларускай дзяржавы ня скончана і да сёньня. Яно адбывалася і адбываецца цяпер у цяжкіх пакутах і выпрабаваньнях. Дэмакратычныя зьмены ў суседняй Украіне даюць надзею і нам вызваліцца ад кайданоў мінулага, каб вольна і сьмела крочыць у будучыню. Згадаем разам аптымістычныя радкі з вядомай песьні "Крыніцы":

***Надыдзе раньне сьвежае!***
***І новы дзень адбудзецца!***
***І зазьвініць капежамі,***
***І збудзецца, і збудзецца!***

# Бітва за Украіну працягваецца

*Перамога Майдану, уцёкі былога прэзыдэнта Віктара Януковіча ў Расею не прывялі да спакою ва Украіне, каб украінскі народ мог пачаць будаваць новае жыцьцё.*

*Пуцінская Расея не змагла пераадолець сваё заўсёдныя імперскія памкненьні і стала на шлях прымусовага вяртаньня суседкі ў зону свайго ўплыву. Расейскія войскі акупавалі Крым і з падтрымкаю расейскіх вайсковых базаў на паўвыспе і прарасейскі настроенаай часткі насельніцтва спрабуюць адарваць Крым ад Украіны. Гэтым крокам Расея распачала небясьпечную гульню ў Эўропе па зьмене дзяржаўных межаў, што выклікала негатыўную рэакцыю на міжнароднай арэне.*

## Краіны ЭЗ узгаднілі санкцыі супраць расейскіх уладаў

Пад санкцыі трапяць высокапастаўленыя прадстаўнікі спецслужбаў і армейскага кіраўніцтва, а таксама прыкметныя дэпутаты. Прадугледжваюцца візавыя абмежаваньні і замарожваньне актываў тых, хто адказвае за парушэньне суверэнітэту Украіны. Сямістаронкавы тэкст падрабязна апісвае абмежавальныя меры, якія будуць прынятыя супраць Масквы, калі яна не сыдзе з курсу ў дачыненні да Крыма і не пачне перамовы з міжнароднымі пасярэднікамі аб рашэньні крызісу.

Гэта першыя эўрапейскія санкцыі супраць Расеі з канца халоднай вайны, што стане знакам сур'ёзнага абвастрэньня адносінаў паміж Усходам і Захадам.

Расейскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін і міністр замежных спраў Сяргей Лаўроў у спіс не трапляюць, каб захаваць магчымасць перамоваў у выпадку магчымай эскалацыі.

Калі Расея не адрэагуе на ціск, Еўразвяз гатовы зрабіць далейшыя крокі, магчыма, якія ўключаюць увядзеньне эмбарга на пастаўкі зброі і іншыя гандлёвыя абмежаваньні. Наступныя санкцыі могуць таксама закрануць самога Пуціна.

## Эўрапарлямэнт гатовы спыніць супрацоўніцтва з Дзярждумай Расеі

Пра гэта сказана ў рэзалюцыі Эўрапейскага парлямэнта ад 13 сакавіка 2014. У дакумэнце падкрэсьліваецца, што ўварваньне Расеі ў Крым супярэчыць міжнароднаму праву і зьяўляецца парушэньнем абавязацельстваў Расеі згодна з Будапэшцкім мэмарандумам. Аргумэнты, якія падаў Уладзімір Пуцін для апраўданьня гэтай агрэсіі, зусім неправамоцныя і не адпавядаюць рэаліям.

«Таму Еўрапейскі парлямэнт рашуча асуджае ваенную агрэсію Расеі і ўварваньне ў Крым як неад'емную частку Украіны, - сказана ў тэксце. - У сувязі з гэтым Эўрапарлямэнт падтрымлівае рашэньне замарозіць двухбаковыя перамовы з Расейскай Фэдэрацыяй у візавых пытаньнях і падрыхтоўку да саміту «Вялікай васьмёркі». Эўрапарлямэнт цалкам падтрымлівае заклік Рады Эўропы да неадкладных перамоваў (з міжнароднымі пасярэднікамі). У выпадку адсутнасьці прагрэсу Эўрапарлямэнт падтрымае пастановы ЭЗ, уключаючы забарону на ўезд і выезд, замарожваньне актываў і адмену саміту Расея-ЭЗ».

Эўрапарлямэнт настойвае на тым, што парлямэнцкае супрацоўніцтва паміж ім і Дзяржаўнай думай Расеі, а таксама Саветам Фэдэрацыі ня можа працягвацца пры існуючых абставінах: «Усе заплянаваныя сустрэчы павінны быць адмененыя да моманту, пакуль крызыс не будзе разьвязаны».

## Кангрэс ЗША асудзіў расейскую інтэрвэнцыю ва Ўкраіне

Палата прадстаўнікоў амэрыканскага Кангрэсу 12 сакавіка прыняла рэзалюцыю з асуджэньнем парушэньня сувэрэнітэту, незалежнасьці і тэрытарыяльнай цэласьці Украіны ўзброенымі сіламі Расейскай Фэдэрацыі.

У рэзалюцыі, якую ініцыяваў рэспубліканец Эд Ройс, заяўляецца, што вайсковая інтэрвэнцыя Расеі ўяўляе сабою парушэньне абавязкаў РФ у рамках Хартыі ААН, а таксама парушэньне Будапэшцкага мэмарандуму 1994 году, а таксама пагражае міжнароднаму міру і бясьпецы.

Рэзалюцыя заклікае Расейскую Фэдэрацыю вывесьці з Крымскага паўвострава ўсе вайсковыя сілы за выключэньнем тых, якія размяшчаюцца там на падставе пагадненьня 1997 году аб Чарнаморскім флёце; устрымацца ад умяшаньня ва ўсіх рэгіёнах Украіны, а таксама спыніць падтрымку сэпаратысцкіх і ваенізаваных фармаваньняў у Крыме.

У дакумэнце выказваецца заклік да саюзьнікаў па НАТО і краінаў Эўразьвязу неадкладна спыніць вайсковае супрацоўніцтва з Расеяй. Рэзалюцыя таксама заклікае прэзідэнта ЗША і лідэраў іншых дэмакратычных краінаў байкатаваць саміт "вялікай вясьмёркі", які мае адбыцца ў чэрвені ў Сочы, правесьці саміт "вялікай сямёркі" і разгледзець пытаньне аб выключэньне Расеі з гэтай групы.

Рэзалюцыя заклікае Адміністрацыю супрацоўнічаць з эўрапейскімі саюзьнікамі і іншымі краінамі з мэтай увесьці візавыя, фінансавыя, гандлёвыя ды іншыя санкцыі ў дачыненьні да высокапастаўленых расейскіх урадоўцаў, расейскіх і ўкраінскіх алігархаў ды іншых саўдзельнікаў у расейскай інтэрвэнцыі.

## Расея разьмесьціць у Беларусі яшчэ 15 баявых самалётаў

Беларусь мае намер прапанаваць Расеі ў рамках двухбаковых дамоўленасьцяў узмацніць сумесную групоўку войскаў, у прыватнасьці авіяцыяй, у сувязі з актыўнасьцю НАТА паблізу беларускай мяжы. Беларусь разьмесьціць у сябе дадаткова 15 расейскіх самалётаў. Пра гэта заявіў А. Лукашэнка «Мы ў апошні час, і гэта факт, назіраем эскалацыю канфлікта. Гэта эскалацыя адбываецца ўжо не ў Сірыіі, не ў Лівіі і не ў Іраку. Гэта ўжо каля нашых межаў, гэта ўжо закранае нашы інтарэсы, і мы, як мышы пад венікам, сядзець ня маем права". Як лічаць палітолягі, такая заява азначае, што Менск уцягваецца ў канфлікт вакол Украіны на баку Масквы.

## Прэзыдэнт ЗША запэўніў прэм'ер-міністра Украіны ў нязьменнасьці пазыцыі ЗША ў справе падтрымкі украінскага народу



*Арсень Яцанюк (зьлева) і Барак Абама*

12 сакавіка новы прэм'ер - міністр Украіны Арсень Яцанюк, які прыбыў у ЗША з візітам, меў сустрэчу з прэзыдэнтам ЗША Баракам Абамам. Па яе выніках Абама, выказаўшы падтрымку народу Украіны, заявіў, што пасланьне з боку ЗША на адрас Расеі застаецца ранейшым: калі Масква ня зьменіць курсу, ёй давядзецца заплаціць за гэта.

## Беларусы Амэрыкі і Канады выказваюць пратэст супроць расейскай агрэсіі ў дачыненні да Украіны

2 сакавіка ў грамадзкай зале Катэдральнага Сабору БАПЦ пасля нядзельнай службы адбыўся сход беларусаў Нью-Ёрка з нагоды падзеяў вакол Украіны. Пад час сходу з інфармацыяй выступіў сп. Зянон Пазьняк. Удзельнікі сходу падтрымалі прапанову накіраваць ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня зварот да прэзідэнта ЗША Барака Абамы з просьбаю аказаць дзейсную дапамогу Украіне ў гэты цяжкі для яе час. Такі зварот быў падрыхтаваны і адпраўлены ў Белы дом.

Пасьля завяршэньня сходу беларусы з бел-чырвона-белымі сьцягамі далучыліся да шматнацыянальнай дэманстрацыі на Манхэтане ў падтрымку Украіны.

Прадстаўнікі беларускай грамады ў Нью-Ёрку рэгулярна бяруць удзел амаль во ўсіх акцыях пратэсту, якія ладзяцца украінскімі арганізацыямі ў дапамогу іхнай Бацькаўшчыне.

Як паведамляла нам старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады сп. Валянціна Шаўчэнка, беларусы ў Таронта таксама актыўна ўдзельнічаюць у акцыях падтрымкі Украіны. У Канадзе пражывае значная колькасьць украінскіх эмігрантаў, і яны таксама не застаюцца абыякавымі да лёсу сваёй краіны, пастаянна праводзяць розныя мерапрыемствы, мітынгі, пікеты і запрашаюць да ўдзелу ў іх беларусаў.

## Беларускі супрацiў у Севастопалі

Сёньня, 4 сакавіка 2014 г., я прыйшоў да варотаў штаба Ваенна-Марскіх Сілаў Украіны на вул. Салаўёва ў Севастопалі. Там стаялі ў ачапленьні расейскія салдаты з закрытымі тварамі і са зброяй. Я прадставіўся, назваў сваё імя і прозьвішча, свой статус - удзельнік баявых дзеяньняў пад час аперацыі ў Чэхаславакіі ў 1968 годзе. Я сказаў, што "Так не павінна быць, што не нельга прад'яўляць патрабаваньне аб здачы зброі да ваеннаслужачых, якія далі прысягу Украіне". Мае апаненты адмовіліся назваць іхныя прозьвішчы. Я выказаў свой пратэст і ў арганізацыі "Ліга афіцэраў Севастопаля" баявому афіцэру - афганцу палкоўніку Лукічову Уладзіміру Леанідавічу, які пагадзіўся са мною.

Потым я пайшоў у арганізацыю воінаў-удзельнікаў баявых дзеяньняў, да якой належу, і напісаў заяву наступнага зьместу: "Старшыні Севастопальскай арганізацыі Саюза вэтэранаў Афганістану Пермінаву Аляксандру Паўлавічу удзельніка баявых дзеяньняў у Чэхаславакіі ў 1968 годзе Барташа Валерыя Міхайлавіча. У сувязі з больш чым ненармальнай сытуацыяй, узьнікшай у Севастопалі ў лютым-сакавіку 2014 года, а менавіта, сілавога і псіхалягічнага ўздзеяньня ў адносінах да воінскіх частак Ваенна-Марскіх сілаў Украіны з боку Узброеных Сілаў Расейскай Фэдэрацыі з патрабаваньнем скласьці зброю і здрадзіць Украіне, ЗАЯЎЛЯЮ пра недапушчальнасьць зьвяртацца з такімі патрабаваньнямі да прадстаўнікоў ВМС Украіны, прыніжаючымі гонар і годнасьць салдата-воіна. Прашу Вас ад імя Севастопальскай арганізацы воінаў-вэтэранаў Афганістана прыняць меры, каб перапыніць супроцьстаяньне, якое прыніжае годнасьць і гонар воінаў братэрскай дзяржавы - Украіны".

У вуснай форме я дадаў, што я беларус, праўнук салдата Расейскага імпэратарскага войска, якое вызваляла Баўгарыю ў Расейска-турэцкай вайне 1877-1878 г.г.; унук салдата Расейскага імпэратараскага войска, загінулага ў 1914 годзе; сын майго бацькі - афіцэра, вэтэрана Чарнаморскага Флёта, які ваяваў ад 24 чэрвеня 1941 году, удзельнік жорсткіх баёў пад Наварасійскам; пляменьнік майго дзядзькі - афіцэра Чырвонага Войска, удзельніка баёў пад Магілёвам, потым падпольшчыка і ізноў афіцэра Чырвонага Войска, загіблага ў баях у Літве і пахаванага на вайсковых могілках у горадзе Друскайнітэ.

Я заяўляю, як севастопалец, што сваімі дзеяньнямі ў адносінах да братоў-украінцаў, сёньня Чарнаморскі Флёт заплямiў сьвяты Андрэеўскі сьцяг, сьвяты для мяне сьцяг Ваенна-Марскога Флёту. З двух гадоў я жыву ў Севастопалі, я салдат Савецкага Войска і застануся ім назаўсёды.

*Валер Барташ,*
*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў "Пагоня" імя Максіма Багдановіча*

# Весткі з Вільні

*У лютым у Таварыстве беларускай культуры Літвы адзначылі некалькі знакавых падзеяў з беларускай гісторыі, культуры, літаратуры:*

## Ліквідацыя нацыянальнае беларускае Царквы

Ліквідацыя Берасьцейскай царкоўнай уніі паступова і мэтанакіравана пачалася разам зь першым падзелам Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. Больш за мільён грэка-каталікоў, што апынуліся пасьля гэтага ў складзе Расейскай Імпэрыі не маглі быць незаўважанымі новымі ўладамі. Пры адкрытай падтрымцы сінадальнай РПЦ былі распачаты спробы разьяднаньня беларускіх уніятаў з Апостальскай Сталіцай. Выбіраліся шматлікія спосабы дасягненьня пастаўленай царызмам мэты, але амаль ніколі не было адкрытага дыялогу. Ворагі Уніі з Рымам не цураліся нават умешваньня ва ўнутрацаркоўныя справы. Такім чынам, 22 красавіка 1828 году царскі ўказ наказваў правесьці царкоўныя рэформы Грэка-каталіцкай Царквы ў Расейскай Імпэрыі, каб наблізіць адміністрацыйныя структуры, абрады і інш. да маскоўскай праваслаўнай традыцыі. Тады ў склад Расеі ўваходзіла Полацкае архіепіскапства, Віленская, Луцкая, Берасьцейская епархіі. Было 6 епіскапаў, 2 тысячы сьвятароў, 600 манахаў, 80 манашак і каля 1,5 мiлёна вернікаў.

Кульмінацыяй афіцыйнай ліквідацыі Уніі стаўся дзень 12 лютага 1839 году, калі біскуп Сямашка і два біскупы Васіль Лужынскі ды Антоні Зубко падпісалі акт зрыву еднасьці з Рымскім Папам і аб'яднаньня з РПЦ. У самім акце адкрыта зьневажалася Рымска-каталіцкая Царква на чале з Біскупам Рыму ды непрыхавана ўсхваляўся Цар, як сапраўдны памазаньнік Божы.

Простае духавенства, што не пагадзілася пераходзіць у расейскае праваслаўе ссылалася ў Сыбір альбо далёкія манастыры. Вернікам адкрывалася толькі адна магчымасьць: прыняць навязваемае праваслаўе.

Ліквідацыя Уніі ў 1839 годзе ня толькі яшчэ больш узмацніла русіфікацыю (на месцы тутэйшых сьвятароў прысылаліся расейцы), але й таксама паланізацыю (тыя, хто прыняў лацінскі абрад адначасова запісваліся палякамі – людзьмі "польскай веры").

Гэтая значная падзея пакінула вялізныя раны на целе Беларушчыны, што адчуваем дагэтуль, а зрыў з Рымам прынёс беларусам раўназначны зрыў з Эўрапейскай цывілізацыяй.

*Падрыхтаваў кс. Даніла Сваяк*

## 25-я ўгодкі сьмерці прэзыдэнта БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча

25 гадоў таму ня стала прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі Вінцэнта Жук-Грышкевіча, жыцьцё і дзейнасьць якога зьвязана і з Вільняй. Тут ён скончыў Віленскую беларускую гімназію, пазьней у ёй выкладаў, а таксама і ў Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі і Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні.

Вышэйшую адукацыю В. Грышкевіч атрымаў у Празе, Скончыў факультэт славянскай філялёгіі і гісторыі Карлава ўнівэрсытэта. З пачаткам Другой сусьветнай вайны быў у эміграцыі. У 1945–1948 гг. выкладаў гісторыю і псыхалёгію ў вайсковых польскіх школах у Італіі і Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, першы старшыня арганізацыі. Пры канцы 1947 г. увайшоў у кіраўніцтва Рады БНР. У 1950 г. выехаў у Канаду. У Атаўскім унівэрсытэце абараніў доктарскую дысертацыю „Лірыка Янкі Купалы". У 1954–1956 гг. – першы кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне". У 1970–*1982* гг. – старшыня Рады БНР.

*Падрыхтаваў д-р Алесь Адамковіч*

## 40 гадоў, як ня стала Паўліны Мядзёлкі

Гэтай зімой споўнілася 40 гадоў са дня сьмерці беларускай артысткі, пэдагога, паэткі, мэмуарысткі Паўліны Мядзёлкі. Нарадзілася будучая літаратарка ў жніўні 1893 г. у шматдзетнай сялянскай сям'і ў мястэчку Будслаў Дзісьненскага павета Віленскай губерні. У 1898 г. сям'я пераехала ў Глыбокае, дзе Паўліна скончыла царкоўна-прыхадзкую вучэльню. З 1907 вучылася ў Рызе на вечаровых курсах для дарослых. У 1909 г. працягнула адукацыю ў прыватнай жаночай гімназіі Нязьдзюравай і Райсмілер у Вільні. Тут, у Вільні, Мядзёлка зблізілася зь беларускім рухам, пазнаёмілася са З.Бядулем, К.Каганцом, Цёткай, А.Бурбісам і іншымі дзеячамі.

Увосень 1912 г. Паўліна паехала ў Пецярбург на Вышэйшыя камэрцыйныя курсы, якія скончыла ў 1914 г. У час вучобы ў Пецярбургу пазнаёмілася з прафэсарам Б.Эпімах-Шыпілам, на кватэры якога вечарамі зьбіралася беларуская моладзь. На кватэры прафэсара жыў і Янка Купала, які якраз перад тым скончыў сваю вядомую п'есу "Паўлінка", і брат прафэсара Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла ўзяўся за арганізацыю спэктакля. Калі пачалі разьмяркоўваць ролі, спыніліся на тым, што менавіта ёй, П.Мядзёлцы, быць Паўлінкай. П'еса прайшла зь велізарным посьпехам.

Пад час Першай сусьветнай вайны Паўліна працавала ў Петраградзе сакратаром Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. У сакавіку 1918 перабралася ў Менск. Працавала настаўніцай, удзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі.

З 1918 г. пад псэўданімам Паўлінка выступала ў друку зь вершамі, пісала паэмы і п'есы. У Заходняй Беларусі быў папулярным гімн-песьня Паўліны "Пад гоман вясёлы". Зь вясны 1919 г. Паўліна Мядзёлка стала інспэкткарай беларускіх школаў, кіраўніцай Грамады беларускай моладзі і драматычнага гуртка ў Гродне, дзе была арыштаваная польскімі ўладамі за ўдзел у выданьні газэты "Родны край". Зноўку была арыштаваная разам з мужам Тамашом Грыбам польскімі ўладамі ў 1920 г. і была вывезеная ў Варшаву, дзе сядзела ў турме Вронкі на Пазнаншчыне. Але пазьней па падробленых дакумэнтах удалося выехаць у Вільню, а затым трапіць у Літву. У Коўне займалася выданьнем агітацыйнай літаратуры, накіраванай супраць польскай акупацыі Заходняй Беларусі. У 1922 г. пераехала ў Латвію, выкладала ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску (цяпер Даўгаўпілс). У 1924 г. зноў арыштаваная, але на гэты раз ужо латышскімі ўладамі; апраўданая судом у 1925 г., пасьля чаго выехала ў Савецкую Беларусь.

У Менску літаратарка спачатку працавала ў сэктары мастацтва Інбелкульту. Потым, у 1927—1930 г., выкладала беларускую мову ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Праблемы з савецкімі ўладамі пачаліся ў 1930 г., калі Мядзёлка захварэла і паехала на лячэньне ў Маскву, дзе была арыштаваная па штучнай справе "Саюзу вызваленьня Беларусі". Пасьля арышту выслана ў Казань. З восені 1932 г. выкладала рускую мову і літаратуру ў адной з маскоўскіх школаў.

Пасьля вайны, ў 1947 г., Мядзёлка вяртаецца ў Беларусь, у Будслаў, дзе працуе настаўніцай. У Будславе напісала свой найбольш значны твор — мэмуары "Сьцежкамі жыцьця". Памерла літаратарка 13 лютага 1974 г. У Будславе яе імём названа школа і новая вуліца.

*Падрыхтаваў Артур Яўмен*

# Беларуска-Эстонскае Згуртаваньне (БЭЗ) сьвяткуе 25-гадовы юбілей

23 сакавіка Беларуска-Эстонскае Згуртаванне"БЭЗ" адзначае свой юбілей. На сёньняшні дзень –гэта найстарэйшая з працуючых у Эстоніі беларускіх суполак. Яно было заснавана у сакавіку 1989 года. За 25 гадоў сваёй дзейнасьці аб'яднаньне зрабіла значны ўнёсак у культурнае асяродзьдзе на паўночным усходзе Эстоніі, ва ўезьдзе Іда-Вірумаа, у гарадах Йыхві і Кохтла-Ярвэ. Акрамя выкананьня асноўных сваіх мэтаў – захоўваньня роднай мовы і беларускай культуры, папулярызацыі сваёй культуры ў шматнацыянальным рэгіёне Іда-Вірумаа – "БЭЗ" спрыяў стварэньню беларускіх суполак у Нарве ("Сябры" – 1999 г.) і ў Сіламяэ ("Крыніца" – 2005 г.), а таксама ўзмацненьню інтарэсу да беларускай культуры з боку ўладаў гарадоў і ўездаў. Йыхвіская валасць падпісала пагадненьне аб супрацоўніцтве з беларускім горадам Паставы, горад Кохтла-Ярвэ – з горадам Салігорскам. Акрамя Эстоніі і Беларусі, "БЭЗ" добра вядомы сярод беларускіх арганізацый у свеце. 20 гадоў таму мы ўдзельнічалі ў стварэньні Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", і прадстаўнік "БЭЗа" – Зінаіда Клыга – усе гады ўваходзіць ў Раду Згуртаваньня. Таксама "БЭЗ" зьяўляецца сябрам Аб'яднаньня беларусаў Балтыі і ўдзельнічае ў сумесных культурніцкіх ды асьветных акцыях. Гэткія мерапрыемствы "БЭЗа", як пэрыядычныя фэстывалі "Родныя напевы", "Усьмешка па-беларуску", традыцыйныя выставы Аб'яднаньня беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар", накіраваныя на арганізацыю сумеснай дзейнасьці ўсіх рэальна працуючых аб'яднаньняў беларускай культуры Эстоніі. Адзначаючы сваё 25-годзьдзе, "БЭЗ" заплянаваў правесьці канфэрэнцыю "Беларуская дыяспара Эстоніі: рэаліі ды надзеі" з удзелам прадстаўнікоў беларускіх суполак Эстоніі і інш. гасьцей. Гэткая прадстаўнічая канфэрэнцыя – своеасаблівая справаздача аб працы "БЭЗа" за 25 гадоў.

Ля вытокаў "БЭЗа" стаяла творчая і тэхнічная інтэлігенцыя: нядаўнія выхадцы з Беларусі і дзеці пасляваенных беларускіх перасяленцаў. Мы хацелі захаваць нашу ідэнтычнасьць у грамадзтве, якое неяк разам размяжавалася на эстонцаў і на масу так званых расейскамоўных. Гэта вызначыла і нашую асноўную мэту: захаваньне ўласных, амаль страчаных каранёў, культурных каштоўнасьцяў, сваёй гісторыі, роднай мовы, нацыянальных традыцый.

"БЭЗ" у межах паняцьця народнай дыпламатыі цалкам годна прадстаўляе наш рэгіён і ўсю Эстонію на міжнародных мерапрыемствах як у Беларусі, так і ў іншых краінах, у тым ліку ў Літве, Польшчы, Чэхіі. Таму нашая праца, як прыклад ўсьвядомленага ўспрыманьня асобы ў шматкультурным асяродзьдзі Іда-Вірумаа, патрэбная ня толькі нам самім, але яшчэ і шматлікім іншым жыхарам Эстоніі. Як знак высокай ацэнкі нашай працы і зь вялікай удзячнасьцю мы ўспрынялі тое, што Йыхвіскае валаснае кіраўніцтва зарэзэрвавала для сьвяткаваньня нашага 25-гадовага юбілею вялікую залю мясцовага Канцэртнага дома.

*(Паводле сайту ЗБС "Бацькаўшчына)*

# 20-годзьдзе "Уздыму"

9 лютага 2014 года ў Даўгаўпілсе (Латвія) адбылася важная падзея для беларускай дыяспары. Беларускае культурна-асьветнае таварыства "Уздым" сьвяткавала сваё 20-годзьдзе. Было шмат гасьцей, прыйшлі найперш тыя, хто пачынаў беларускі рух у Даўгаўпілсе: першы старшыня "Уздыму" Канстанцін Капуста і яго пасьлядоўнікі. Вельмі прыемна было бачыць на нашым сьвяце Людмілу Каралёву. У 1990-я гады яна была старшынёй Балта-славянскага таварыства. Менавіта яна запрасіла тады ўсіх балта-славянаў у свае таварыствы. Адтуль наш пачатак. Яна была ініцыятарам правядзеньня арганізацыйнай канфэрэнцыі беларусаў (1992) з мэтай зьвярнуць увагу да беларускай культурна-асьветніцкай працы. Тая канфэрэнцыя мела станоўчыя вынікі. У наступным, 1993, годзе наша таварыства было афіцыйна зарэгістравана. Многія гаварылі таксама і пра развіцьцё беларускай культуры ў Латгаліі ў 20-30 гады мінулага стагодзьдзя, калі тут існавалі беларускія школы, розныя грамадзкія арганізацыі, нават драматычныя тэатры, выдаваліся на беларускай мове кнігі, часопісы, газэты. Так у 1990-я гады маленькая жменя беларусаў аб'ядналася і пачала шукаць свае карані на латгальскай зямлі. Вось такі маленькі экскурс у гісторыю нашага таварыства. Цяпер прыйшлі новыя людзі з новымі поглядамі і плянамі і з іншым поглядам на развіцьцё беларускай культуры ў Латвіі. Хочацца пажадаць ім посьпехаў. Тых, хто пачынаў, яны называюць вэтэранамі. 20 гадоў – немалы тэрмін для грамадзкай працы. Было што ўспомніць і пра што пагаварыць. Быў таксама сьвяточны канцэрт з удзелам дзяцей нядзельнай беларускай школы і творчых калектываў Цэнтра беларускай культуры: танцавальнага калектыву "Лянок", гурта беларускай народнай песьні "Купалінка", трыа "Ластаўкі", калектыву "Спадчына", салістаў Паўла Прозара, Аляксандра Лапы, Зінаіды Сіліні. Сьвята надоўга запомніцца ўсім прысутным.

*(Паводле сайту З БС "Бацькаўшчына)*

# У дзень сьвята Нараджэньня Хрыстовага ў Гайлэнд-Парку адбылася архіярэйская Боская літургія



Напярэдадні сьвята Нараджэньня Хрыстовага парафію Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Гайлэнд-Парку (штат Нью-Джэрзі) сваім пастырскім візытам наведаў Уладыка Сьвятаслаў, архіяпіскап Навагрградзкі й Паўночна-Амэрыканскі. 7 студзеня ён узначаліў сьвятую Боскую літургію. Уладыку саслужылі: настаяцель храму протаярэй Зіновій Жалобак, архімандрыт Андрыян Бойка, протаярэй Міхайла Федарак. На багаслужэньні сьпяваў парафіяльны хор пад кіраўніцтвам рэгента Якуба Сапяжынскага.

У сваёй пропаведзі Уладыка Сьвятаслаў раскрыў глыбокі зьмест сьвята Нараджэньня Хрыстовага. У канцы службы настаяцель храму протаярэй Зіновій Жалобак падзякаваў Уладыку й сьвятарам за багаслужбу ды прывітаў усіх парафіянаў зь вялікім сьвятам Нарджэньня Хрыстовага. Пасьля гэтага хор і ўсе прысутныя сьпявалі калядкі, праслаўлялі нованароджанае дзіцятка.

Напярэдадні сьвята Нараджэньня Хрыстовага, 6 студзеня, у храме было адслужана Каляднае ўсеначнае трываньне, якое ўзначаліў Высокапраасьвяшчэньнейшы Уладыка Сьвятаслаў у саслужэньні настаяцеля храму протаярэя Зіновія Жалобака. Пасьля заканчэньня багаслужбы ўсе вернікі зайшлі ў царкоўна-грамадзкую залю на куцьцю.

У гэтыя два дні храм наведала шмат людзей, якія прыходзілі праславіць нованароджанае немаўлятка – Ісуса Хрыста.

*Валянцына Трыгубовіч*

*Фота Алы Дубяга*

# Хочацца, каб гэта хутчэй адыйшло ў гісторыю

*"Турэмны досьвед стаўся запатрабаваным у чытачоў". Гэта радок з прадмовы да кнігі "Голас волі з-за кратаў", якая нядаўна выйшла з друку ў Вільні. Анталёгія твораў беларускіх палітзьняволеных мае 990 старонак, у ёй зьмешчаныя вершы, успаміны, дзёньнікі, апавяданьні ды публіцыстычныя артыкулы 18 аўтараў. Аднак укладальнік, таксама нядаўні палітзьняволены, Аляксандар Фядута ў прадмове згадвае й многіх іншых асобаў, якія ў найноўшай беларускай гісторыі адбывалі пакараньне за свае перакананьні, і пачынае пералік з Славаміра Адамовіча, які ў 1996 годзе трапіў у "амэрыканку" (вязьніцу КДБ) за верш "Забі прэзыдэнта".*

*Сярод аўтараў анталёгіі (палітзьняволеных і вязьняў сумленьня паводле вызначэньня міжнародных праваабарончых арганізацыяў) ёсьць людзі розных палітычных поглядаў, рознага веку. Адно ў іх агульнае: яны ўсе любяць свабоду, верац у ідэалы дэмакратыі й асуджаныя зусім не за тое, што напісана ў іх асабовых справах.*

*Урывак з твору Ігара Аліневіча "Еду ў Магадан", які мы перадрукоўваем з ласкавай згоды ягонай маці – Валянціны Міхайлаўны, дае грунтоўныя адказы на пытаньні, якія трывожаць сёньня шмат каго ў Беларусі. Гэтая дакумэнтальная аповесьць, хоць яе часьцей называюць турэмным дзёньнікам, мае прывабнага галоўнага героя – моцную ў сваіх перакананьнях асобу, у ёй прысутныя элемэнты дэтэктыву – выкраданьне маладога чалавека ў Маскве "людзьмі ў чорным" і нелегальная транспарційоўка яго ў Беларусь, ёсьць выразныя псыхалягічныя партрэты вязьняў і катаў, прысутнае пачуцьцё гумару ды рамантызм. Ігар – інтэлектуал, мысьляр, спэцыяліст у галіне радыёэлектронікі, анархіст паводле перакананьняў, змагар за справядлівасьць і волю людзей. Абвінавачваньні супраць яго на судзе не былі даказаныя. Але вырак – 8 гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму.*

*За кнігу "Еду ў Магадан" Ігар Аліневіч у сьнежні 2013 году стаў першым ляўрэатам прэміі Францішка Аляхновіча, заснаваную радыё "Свабода" й Беларускім ПЭН-цэнтрам. Нагадаю, што Ф. Аляхновіч – аўтар першага ў сьвеце твору пра сталінскія рэпрэсіі, напісаных іх ахвяраю: "У кіпцюрох ГПУ". На жаль, для беларусаў гэта ўсё яшчэ не гісторыя, а надзённасьць.*

*Валянціна Трыгубовіч*

**Ігар Аліневіч**

## Еду ў Магадан

***Фрагмэнт/Урывак***

Наступныя сьцьверджаньні сфармуляваны мною нават без усякага анархізму на падставе размоваў у салідарна-даверлівай атмасфэры, якая ўзьнікае ў цяжкіх і экстрэмальных умовах турэмнага зьняволеньня. Гэта меркаваньні палітыкаў, бізнэсмэнаў, навукоўцаў, чыноўнікаў, прадстаўнікоў сілавых ведамстваў і прадстаўнікоў прафэсійнага крыміналу.

Беларусь – гэта сямейная карпарацыя з штогадовым даходам у некалькі дзясяткаў мільярдаў (для параўнаньня, штогадовы даход Intel – 15 млрд даляраў, Apple – 45 млрд даляраў). На чале карпарацыі стаіць рада дырэктароў зь міністраў і кіраўнікоў камітэтаў пры Савеце Міністраў. Яны – не гаспадары, а толькі топ-мэнэджэры. Кожны зь іх заўтра можа стаць нікім. Сапраўдны гаспадар толькі адзін – Сям'я. Сярэдняе зьвяно карпаратыўнага мэнэджмэнту (узровень выкананьня праектаў) складае каля 1000 чалавек. Гэта людзі, у чыіх руках сканцэнтравана хоць якая-небудзь істотная ўлада. Ніжні ўзровень – выканаўчы пэрсанал, тыя, хто забясьпечвае палітыку карпарацыі на месцах. Разам апарат карпарацыі складае каля 90 тысячаў функцыянэраў. Гэта й ёсьць правячая кляса краіны. Апарат закліканы вырашаць дзьве найважнейшыя задачы карпарацыі: улік, кантроль, збор падаткаў з усёй гаспадарчай дзейнасьці ў краіне; забесьпячэньне карпаратыўнай бясьпекі й сацыяльнага падаўленьня. Найбольш прыбытковыя галіны карпарацыі – перапрацоўка й продаж расейскай нафты й нафтапрадуктаў, калійных угнаеньняў, прадукцыя машынабудаваньня й мяса-малочнага комплексу, тавары хімічнай прамысловасьці. 80% усёй уласнасьці належыць дзяржаве, 20% – прыватным асобам. Прыватны бізнэс больш эфэктыўны, чым дзяржпрадпрыемствы, аднак Сям'я ўсяляк стрымлівае ягоны рост. Па-першае, дзяржуласнасьць прасьцей абкрадаць. Буйнейшыя кавалкі ідуць пэрсанальна Сям'і. Па-другое, інтарэсы апарату карпарацыі. Разам з карпаратыўнымі льготамі ды прывілеямі кіруючы пэрсанал хоча атрымаць сваю долю прыбытку ў абмен на лаяльнасьць. У справу ідуць законныя й незаконныя крадзяжы, адкаты, субпадрады, кумаўство й г. д. Схемы крадзяжоў адточаныя да бляску. Сям'я змушаная з гэтым мірыцца. Па-трэцяе, прыватызацыя, хоць і абяцае імгненныя выгады, вядзе да росту колькасьці буржуазіі, г. зн. юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў. Небясьпека ў тым, што буржуазія не жадае (паводле сваёй прыроды) дзяліцца з кім бы там ні было й таму непазьбежна імкнецца скінуць зь сябе ярмо сямейнай карпарацыі. Калі буржуазія шматлікая, валодае здольнасьцямі, воляй ды сродкамі, яна імкнецца аб'яднацца зь лібэральнымі палітычнымі рухамі (апазыцыяй) і/або часткаю карпаратыўнага апарату. Мэта – скінуць Сям'ю ды ўтварыць калегіяльны орган кіраўніцтва апаратам, інакш кажучы – парлямэнт. Ліквідаваць прыватны сэктар цалкам Сям'я ня можа, бо камэрцыя – працоўны конік, коштам якога затыкаюць дзіркі ў эканоміцы. На самым нізе, пад карпаратыўным апаратам і гаспадарчымі суб'ектамі, знаходзіцца народанасельніцтва, якое называецца беларусамі. Яно не валодае абсалютна нічым, таму што ў асноўным залежыць ад бюджэту ды дзяржаўных прадпрыемстваў. Народанасельніцтва – гэта вечны галаўны боль карпарацыі, таму што яно патрабуе забесьпячэньня ў выглядзе заробатнай платы, ільготаў, мэдыцыны, транспарту, адукацыі, вольнага часу. Праблемы пачынаюцца тады, калі масы выказваюць незадаволенасьць. Па вялікім рахунку сама па сабе незадаволенасьць і хваляваньні насельніцтва для карпарацыі ня страшныя. Іх лёгка могуць задушыць сілы бясьпекі. Адно толькі Міністэрства ўнутраных справаў налічвае 14,5 супрацоўнікаў на 1000 чалавек насельніцтва. Аднак незадаволенасьцю могуць скарыстацца буржуазія ды лібэральныя палітычныя сілы. Вось чаму Сям'я ўсяляк душыць любыя праявы грамадзянскай супольнасьці, не дае фармавацца ўстойлівым лібэральным сілам, утойліва рэпрэсуючы актыўных дзеячаў буржуазіі ды апазыцыі (да прыкладу, адлічэньні й звальненьні, праверкі бізнэсу й г. д.). Хваляваньні народанасельніцтва – рэч пэрманэнтная. У сваёй лёгіцы ланцужок выглядае так: незадаволенасьць – хваляваньні – забастоўкі – бунт – рэвалюцыя. Больш як усяго астатняга карпарацыя баіцца нават не лібэральнага ўплыву на масы, а расчараваньня масаў у якіх бы то ні было сілах увогуле. Калі насельніцтва зразумее, што ўсё вакол створана ім самім, што без звычайных працаўнікоў начальнікіператвараюцца ў нішто, калі насельніцтва адчуе сваю сілу, то ў гэты момант насельніцтва трансфармуецца ў народ. Народ – гэта социюм, які ўсьведамляе сябе, свае правы й свае інтарэсы. І гора тады любой уладзе! Усе палітыкі ва ўсе часы з асьцярогай глядзяць на "народную карту" ў сваіх гульнях. Зваротны бок гэтай карты – сацыяльная рэвалюцыя. І яе немагчыма ўціхамірыць нічым, акрамя вельмі жорсткага тэрору. З гэтым сутыкнуліся банапартысты часу Французскай рэвалюцыі, з гэтым сутыкнуліся й бальшавікі. Нездарма Ленін з Троцкім гаварылі, што народныя паўстаньні былі для іх больш небясьпечныя, чым усе белыя арміі, разам узятыя! А таму карпарацыя робіць усё, каб насельніцтва заставалася раўнадушным да палітыкі. Менавіта таму другой функцыяй карпарацыі зьяўляецца забесьпячэньне ўласнай бясьпекі й сацыяльнае падаўленьне.

У карпарыцыі існуюць спэцыяльныя інстытуты, якія на самай сучаснай навуковай аснове адсочваюць магчымы ўплыў хістаньняў эканомікі на настроі масаў. Шляхам эфэктыўнага маніпуляваньня лічбамі ў галіне сацыяльнай палітыкі карпарацыі ўдаецца год за годам забясьпечваць адноснае раўнадушша. Адзін з такіх мэханізмаў – Камітэт дзяржаўнага кантролю, які атрымлівае канкрэтныя інструкцыі зьверху. Аднак гэта прыватнасьці. У цэлым сыстэма сацыяльнага падаўленьня навязвае насельніцтву:

*каштоўнасьці канфармізму, калі людзі баяцца й саромеюцца думаць ня так, як усе;

*каштоўнасьці спажывецтва, калі асабісты рост прывязваецца да ўзроўню атрыманых матэрыяльных дабротаў;

*каштоўнасьці нацыянал-патрыятызму, калі праз гіпэрбалізацыю калектыўнага пачуцьця прымушаюць любіць сымбалі карпарацыі, адчуваць адзінства зь ёю, атаясамляць сябе з правячай клясаю, бачыць у насельніцтве іншых краінаў ворагаў, адкрытых і прыхаваных. Сацыяльнае падаўленьне ўключае ў сябе штучнае падтрыманьне сталага дэфіцыту (каб толькі-толькі хапала), пачуцьця зьнешняй і ўнутранай пагрозы, каб адцягнуць людзей ад разуменьня сапраўдных праблемаў і прычынаў, што спараджаюць гэтыя праблемы. Акрамя навязваньня разбуральных каштоўнасьцяў, акрамя штодзённага абалваньваньня й хлусьні праз СМІ карпарацыя актыўна праводзіць палітыку алькагалізацыі ды наркаманізацыі насельніцтва. Першае – легальна, праз манаполію на продаж алькаголю й табаку. Другое – нелегальна, праз крышаваньне лябараторый, каналаў паставак і дылерскіх сетак (так, менавіта так!). Гэта й вялізныя грошы, і выгадны сацыяльны інструмэнт.

У ідэале Сям'я хацела б валодаць:

*абсалютна лаяльным і безадмоўным карпаратыўным апаратам;

*пакорлівай буржуазіяй, заўсёды гатовай быць абстрыжанай;

*фармальнай няжыцьцяздольнай апазыцыяй у якасьці шыльды для "цывілізаванага" сьвету;

*паслухмяным быдлам замест народу, які знаходзіцца ў стане поўнай дэградацыі.

Людзі для карпарацыі – расходавы матэрыял. Заўсёды знойдзецца патрэбная колькасьць беспрынцыпных кар'ерыстаў, якія гатовыя па касьцях лезьці наверх і папоўніць правячую клясу, дзеля гэтага атрымаць неабходную адукацыю

*Працяг на 6-й бачыне*

# Еду ў Магадан

*Працяг з 5-й бачыны*

ды адмовіцца ад сумленьня. Астатнія няхай дэградуюць, эмігруюць… І ўсё ж, нягледзячы на хітрыкі сацыяльнага маніпуляваньня, пазбаўленьня культурнай адметнасьці, прывязкі да дзяржсэктару, ключавым інструмэнтам падаўленьня насельніцтва зьяўляецца карная сыстэма, г. зн. апэратыўная распрацоўка, сьледзтва, пракуратура, суды, "папраўчыя" ўстановы. Вышэй была падрабязна разгледжана судова-сьледчая мэханіка. Лёгіка яе працы патрабуе ўсё новых і новых справаў, што забясьпечвае ўласнае бесьперапыннае функцыянаваньне. Пэнітэнцыярная сыстэма выдае 45% (як мінімум!) рэцыдыву. Відавочна, што сыстэма ўзнаўляе злачыннасьць дзеля забесьпячэньня свайго існаваньня. Нашы лёсы – гэта паліва карных органаў. Ведома, прыведзеныя сьцьвярджаньні тлумачаць толькі прынцыпы функцыянаваньня й самападтрымкі гэтага мэханізму. Але ў чым заключаецца падаўленьне, які сацыяльны эфэкт дасягаецца? Здавалася б, органам выгадна мець "хуткі кругазварот": ад грамадзяніна да статусу зьняволенага, і зноў, і зноў, г. зн. было б выгадна саджаць рэцыдывістаў на нязначныя тэрміны, каб яны хутчэй вызваляліся, рабілі новае злачынства (або ім прышывалі чыёсьці), распачыналася справа й далей па накатанай. І сапраўды, прафэсійныя злачынцы або тыя, хто прыняў злачынны лад жыцьця (майстэрствам не валодаюць), і дэбілы-дурні абмяжоўваюцца параўнаўча мяккім пакараньнем. Але пры гэтым вялізная колькасьць першаходаў, чыё злачынства не зьвязанае з крыміналам як такім, атрымліваюць вялізныя тэрміны, што ў рамках самой карнай сыстэмы немагчыма зразумець. Навошта? Адказ робіцца ясным, калі супаставіць карціну сацыяльнай палітыкі карпарацыі з карцінай псыхалягічных тыпаў так званых цяжкіх злачынцаў (ад 3–6 гадоў і вышэй, аж да 20–25 гадоў пазбаўленьня волі). У масе сваёй – і гэта кідаецца ў вочы кожнаму – гэта людзі больш актыўныя, больш ініцыятыўныя, больш разумныя, больш арыгінальныя ды, самае важнае, больш прынцыповыя, чым звычайны сярэдні жыхар краіны. "Дробязь" атрымліваюць або майстры-профі (іх вельмі мала, яны рэдка пападаюцца), або (абсалютная большасьць гэтай катэгорыі) душэўныя калекі, што сьпіліся, апусьціліся, або простыя, аднак недалёкія людзі, якія трапілі па дурасьці, непаразуменьню або бязьмежжу.

Іншымі словамі, "цяжкія" – гэта людзі, у асноўным здольныя на ўчынак, на рызыку, якія ведаюць сабе цану й гатовыя змагацца за лепшую долю й павагу, хоць бы для саміх сябе. Гэта пасіянарная частка грамадства, якая заняла б у гэтым самым грамадзтве віднае месца. Выбіральна душыць сьведамых грамадзянаў, патэнцыйную буржуазію, сацыяльных актывістаў, палітычных дзеячаў, рабочых лідараў – поўны турботаў і ненадзейны працэс. Значна эфэктыўней для мэтаў сацыяльнага падаўленьня душыць актыўныя сілы грамадзтва ў цэлым, масава. Гэта й дасягаецца праз мікравыманьне (асуджэньне чалавека на доўгі тэрмін з "прыстойнай" нагоды) актыўных у шырокім сэнсе слова індывідаў. Гэта й карупцыя, і эканамічныя крадзяжы, і славутыя ОПГ (организованная преступная группировка/арганізаваная злачынная групоўка – Рэд.), і забойствы. Усе гэтыя людзі патэнцыйна небясьпечныя для самой карпарацыі, таму што валодаюць больш моцнымі інтэлектуальнымі й валявымі якасьцямі. У выніку ізаляцыі ў лягеры на доўгі час чалавек выпадае з жыцьця і ўжо залезьдзьве зможа дасягнуць таго, чаго мог бы: нехта зламаецца, нехта ад'едзе, нехта страціць здароўе. Ёсьць такі тэрмін – "прыдушэньне інтэлігенцыі" – для вызначэньня генацыду народу. Я гэта й маю на ўвазе, толькі разумею крыху шырэй: прыдушэньне актыўных сілаў грамадзтва ўвогуле.

Цяпер пра масавасьць такой мэтодыкі. За 20 гадоў у краіне перасядзела ў турмах і лягерах ня менш як… паўмільёну мужчынаў! Агулам праз пэнітэнцыярную сыстэму, з улікам "хімікаў" (ссыльных), калёніі-пасяленьні ды інш., прайшло ня менш, як 1,2 млн чалавек, у пераважнай большасьці мужчын, г. зн. 60–70 тыс асуджаных штогод. Гэта пры агульнай колькасьці працаздольных мужчын 2–2,5 млн у краіне! Такім чынам, кожны другі мужык сутыкнуўся з сыстэмай, а кожны пяты (20%) падпаў пад турэмназонаўскую апрацоўку. Нацысты лічылі, што пры ліквідацыі 15% насельніцтва рэпрадуктыўнага ўзросту народ дэградуе. Троцкі пры падаўленьні казацкіх мяцяжоў на Доне прапаноўваў зьнішчыць такі ж працэнт дарослага мужчынскага насельніцтва. Як інакш можна трактаваць такое "супадзеньне"? Або карпарацыя не разумее, што творыць? Усё яны цудоўна разумеюць, таму што дзеля ўтрыманьня ўлады гатовыя на ўсё! Кажуць, беларусы "такія-гэткія", нічога нармальнага няма, усё цераз адно месца. А як па-іншаму, калі саджаюць і саджаюць пачкамі? Мы можам бачыць, да чаго за 20 гадоў прывялі гэтыя мікравыйманьні: развіцьцё грамадзтва застапарылася, бедная культура, аслабленьне маралі, размываньне прыстойнасьці, масавае раўнадушша, адсутнасьць супраціўленьня уладам. Вось ён – духоўны генацыд. Аднак варта толькі ненадоўга паслабіць хватку, і вы ўбачыце, як дух адраджаецца.

За час існаваньня карпарацыі карная сыстэма зьведала пэўную эвалюцыю. На даны момант яна цалкам аднавіла навыкі й досьвед ВЧК – ОГПУ – НКВД да ўзроўню пачатку 1930-х гадоў, г. зн. пярэдадня татальных расстрэлаў і найбольш гучных спраў сталінскіх рэпрэсій. Дзіўнае падабенства многіх этапаў развіцьця рэпрэсіўных органаў тых гадоў і ў наш час не пакідае сумненьняў, што ў аснову палітыкі Сям'я кладзе досьвед і мэтодыкі Сталіна. Між іншага, захапленьне гэтым дзеячам (як і Гітлерам) ніколі й не хавалася. Сталін пачаў з таго, што зьнішчыў сваіх прамых супраціўнікаў, у першую чаргу Троцкага й яго атачэньне. Крыху пазьней прайшла калектывізацыя й раскулачваньне. Так званых кулакоў асуджалі на сьмерць у сібірскіх сьпецпасяленьнях, а іх хлеб прадаваўся за мяжу за валюту. У той самы час праводзілася цкаваньне палітычных апанэнтаў: былых трацкістаў, фракцыяністаў, укланістаў і інш. Аднак на той момант усё заканчвалася адносна мякка: ссылка на тры гады была крайняй мерай, што не ідзе ні ў якое параўнаньне з фактычным вынішчэньнем працоўнага сялянства паралельным курсам. Бліжэй да сярэдзіны 1930-х сталі актыўна фігураваць "шкоднікі", з хадою індустрыялізацыі ўсё большую колькасьць людзей сталі асуджаць за "псаваньне сацыялістычнай уласнасьці". Затым "шкоднікі" плаўна перацяклі ў "сабатажнікаў", махавік пачаў раскручвацца. Вызначальнай рысай сабатажу былі калектыўныя справы тэхнічных спэцыялістаў. Заставаўся толькі крок, каб "сабатажнікаў", "дывэрсантаў", "тэрарыстаў" нехта "ўзначаліў" палітычна. Забойства Кірава стала такім гучным, нечуваным крокам.

Пачаліся тыя рэпрэсіі, якія вядомыя пад імем "37-ы год": працэсы Прампартыі, Зіноўева-Каменева, Пятакова-Радэка, чыстка саміх карных органаў (Ягода, Яжоў), затым ваенных (Тухачэўскі ды інш.). Найбольш ужывальныя ярлыкі, што вешаліся на абвінавачаных, – "агенты сусьветнага імпэрыялізму", "ворагі народу", "пятая калёна" ды інш. Сям'я пачала зь ліквідацыі прамых і сапраўды небясьпечных супраціўнікаў (Захаранка, Ганчар, Красоўскі) і разгрому парлямэнту. Крыху пазьней быў разбіты сьвет арганізаванай злачыннасьці. Наглядчык (смотрящий) за Беларусьсю – злодзей у законе Шчаўлік – забіты, астатнія атрымалі ўльтыматум цягам 24 гадзінаў пакінуць тэрыторыю краіны. Да гэтага моманту была праведзена вельмі маштабная апэрацыя па ОПГ, "Сьветлагорская справа". Што вартае ўвагі, колькасьць дзейных асобаў для сапраўды шырокай крымінальнай структуры выявілася дастаткова невялікай – 15 чалавек. Максімальны тэрмін быў 15 гадоў. Першае дзесяцігодзьдзе XXI стагодзьдзя адзначалася разгонам і цкаваньнем апазіцыі, паступовым звужэньнем свабоды слова й друку, адлучэньнем удзельнікаў дэманстрацый з унівэрсытэтаў. Прадпрымальнікам абяцалі "націснуць руку ў 2010 годзе" ды абдзіралі, як ліпку. У 2006 годзе зьявіліся вядомыя палітзьняволеныя, а пагроза "хіміі" стала зусім рэальнай. Упершыню былі асуджаныя людзі за дзеяньні ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Пакуль што адзінкавыя выпадкі. У той самы час карныя органы ў поўнай меры адпрацоўвалі крымінал. Праўда, незразумела, адкуль ён узяўся на такім узроўні пасьля разгромных 1990-х. Гэты час можна сьмела назваць эрай ОПГ. Трэба паясьніць, што ОПГ – гэта мафія, г. зн. структура, якая складаецца з розных падразьдзяленьняў са сваёй спэцыялізацыяй, ад сілавых групаў да юрыстаў і чыноўнікаў. КДБ і УБОП (упраўленьне па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю – Рэд.) вырашылі не замарочвацца й пачалі штампаваць ОГП дзясяткамі, на галаву пераскочылі нават расейскіх сілавікоў. Колькасьць справаў зашкальвала. Па адной толькі Гомельскай вобласьці "раскрыта" ня менш як паўтара дзясятка ОГП за 10 гадоў! Хойніцкія, уманаўскія, справа "кідалаў", рэчыцкія, марозаўскія, пажарнікі… Калі першыя ОГП складалі "сьціплыя" 5 – 15 чалавек, то да 2006 году на лаўцы падсудных ужо сядзела па 70 (пажарнікі) і 130 (марозаўскія) чалавек! Адкуль?! Тэрміны фантастычныя – 10–25 гадоў! У поўнай адпаведнасьці з тэхналёгіяй сталінскіх працэсаў за аснову бяруцца некалькі чалавек, далей нарошчваюць іх кантактных асобаў, эпізадычных або зусім выпадковых, такім чынам справа набывае бачнасьць аб'ёмнасьці ды сур'ёзнасьці, робіцца магчымым прымяніць нашмат больш цяжкія артыкулы. Могуць аб'яднаць не зьвязаныя адна з адной, а часам і варагуючыя групы ў адну арганізацыю й заявіць ОПГ. Любыя людзі з кола кантактаў могуць трапіць пад сьледзтва. Практыкуецца пасьлядоўнае ўзбуджэньне справаў – быццам незьвязаных, каб націснуць і атрымаць паказаньні.

Напрыклад, справа МТЗ, у якой, каб "расхістаць" галоўнага тэхноляга, узбудзілі яшчэ дзьве справы на зусім іншых людзей, якія з прычыны сваіх прафэсійных заняткаў маглі патэнцыйна даць тое, што патрабуецца. Такі падыход працуе і ў зваротны бок: рэальную ОПГ сьвядома дробяць на незьвязаныя злачынныя групы й асобныя эпізоды. Да прыкладу, справа мытнікаў, якую распрацоўвала сьледчая група Байковай. Пракурорку закрылі, а справу разбілі на мноства самастойных. Сілавікі, якія праходзяць па справе, напэўна моцна не пацерпяць. І ўсё дзеля таго, каб прыкрыць карані, што ідуць на самы верх. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на тое, што вялікая колькасьць сьледчых і опэраў, занятых ОПГ, неўзабаве самі сядаюць на лаву падсудных. Яшчэ большая колькасьць сьледчых звальняюцца ды сыходзяць ад справаў, каб пазьбегнуць шуміхі.

Гэта сьведчыць аб вялізнай уцягнутасьці сілавікоў у крымінал. Наркагандаль, даходы з прастытуцыі, рэкет (!), зброя, ювэлірка – усюды мянты й чэкісты. Злодзеяў разагналі, а братву зьнішчылі, каб прыбраць канкурэнтаў. Вынік 2010–2011 гадоў таму заканамерны: масавыя палітычныя працэсы й гучныя карупцыйныя справы. Экскандыдаты ў прэзыдэнты, намесьнікі міністраў, генэралы – усё роўна, карная сыстэма ўжо разгойдалася. Гэта стала магчыма не адразу, а цягам доўгіх гадоў, калі справа за справай адпрацоўвался адна мэтодыка – пабудова абвінавачваньня на прызнаньнях і паказаньнях сьведкаў. Раней ці пазьней мы павінны былі прыйсьці да сучаснага стану: бясправье ды мянтоўскае бязьмежжа (беспредел). Сёньня ў зонах і турмах мардуюцца каля 47 000 чалавек, у 1937-м было 45 000. Дзясяткі тысячаў знаходзяцца ў калёніях-пасяленьнях ("лясы") ды папраўчых установах адкрытага тыпу ("хімія"). Умовы там нашмат горшыя, чым у лягерах. Трэба назваць рэчы сваімі імёнамі: мы жывем пад акупацыйным рэжымам, які вядзе барацьбу з народам дзеля ўласнага ўзбагачэньня і ўсяўладзьдзя. На міжнароднай арэне Сям'я зьвязвае сябе з расейскім рэжымам. Расея на чале з чэкістам Пуціным будуецца на канцэпцыі petroleum state, г. зн. паліўнай дзяржавы. Стаўка робіцца на экспарт вуглевадародаў, развіваюцца толькі адпаведныя галіны ды вузкі сэгмэнт інфраструктуры. Некалькі буйных фінансавых цэнтраў абслугоўваюць патрэбы элітаў і кваліфікаваных кадраў, у іх забясьпечаны высокі ўзровень жыцьця, вольны час, забавы, гандаль. Астатняя Расея расейскаму рэжыму не патрэбная. Інтарэс Сям'і – гэта атрыманьне долі з транзыту вуглевадародаў на Захад, а таксама ў іх самастойнай перапрацоўцы ды перапродажу. Расейская эліта кроўна зацікаўлена ў стабільнасьці стратэгічнага транзыту й таму для яе найбольш прымальная дакладна такая самая ўлада ў Беларусі, якой яна й сама зьяўляецца, – улада дачасьнікаў.

Такі стан справаў можа зьберагацца да вычарпаньня экспартнага патэнцыялу. Да 2023 году чакаецца выдаткаваньне каля 80% сусьветных запасаў нафты. Зразумела, рэнтабельнасьць упадзе яшчэ раней. У Эўропе гэта разумеюць і актыўна разьвіваюць альтэрнатыўную энэргетыку, заснаваную на выкарыстаньні ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі. У прыватнасьці, такі індустрыяльны гігант, як Нямеччына, ужо цяпер толькі адной энэргіяй ветру пакрывае 20% (!) электраэнэргіі, якую спажывае. На зьмену бэнзінавым і дызельным рухавікам прыходзяць вадародныя. Разьвіцьцё такой тэндэнцыі азначае завяршэньне ўлады дачасьнікаў, яны сыдуць разам з нарабаваным капіталам. А Расею патрасуць сацыяльна-палітычныя зьмены, што, верагодна, прывядзе да частковага тэрытарыяльнага разьвалу. Таму расейская эліта зьбліжаецца з Эўразьвязам. Насуперак распаўсюджанай думцы, Беларусь не знаходзіцца на стыку ўплыву "Расея – Захад", Беларусь належыць да расейскай зоны, так было на працягу навейшай гісторыі. Ёсьць адна простая прычына: Беларусь эканамічна выконвае ролю пярвічнай, найбольш экалягічна бруднай стадыі перапрацоўкі сыравіны – нафтапрадукты, газ, пластмасы, харчовыя дабаўкі, даламіт у рудзе, калійныя ўгнаеньні, цэлюлёзна-папяровая вытворчасьць, цэмэнт і г. д. Агулам Эўропа колькі заўгодна можа прымаць рэзалюцыі ды рабіць дэкаратыўныя манэўры ў бок дэмакратыі, аднак такі стан рэчаў яе цалкам задавальняе. "Гандляваць можна й з канібаламі" – вось сутнасьць эўрапейскай палітыкі. Але Эўропа імкнецца "цывілізаваць" Расею, далучыць да сваіх працэсаў як партнэра, у гэтым ключы зачапляецца й Беларусь. Для пераканаўчасьці магу дадаць наступнае: у Эўразьвязе ёсьць як мінімум два наймацнейшыя мэханізмы ўплыву на Беларусь. Гэта візавы рэжым і санкцыі на беларускі экспарт. Калі Эўропа так хоча дэмакратызацыі ў нас, чаму яна не выкарыстоўвае гэтыя рычагі, заўважу, вырашальныя рычагі? Вось яны, нацыянальныя інтарэсы ў поўнай красе! Такім чынам, нам няма адкуль чакаць дапамогі, ніхто нас не выратуе, акрамя нас саміх. Неабходна ўсьвядоміць, што справядлівае грамадзка-палітычнае ўладкаваньне магчыма толькі шляхам самавызначэньня народу. Інакш – рабства, тыранія, беднасьць, дэградацыя. Улада можа бясконца тэрарызаваць народ усім сваім асартымэнтам рэпрэсіўных сродкаў ды тэхналёгіяў. Але ў яе ёсьць слабое месца – людзі. Сям'я ды ўся карпарацыя ўсё-ткі людзі, ім уласьцівыя тыя самыя слабасьці й заганы, што й простым сьмяротным. Гэта страх, паніка, адчай, ірацыяналізм, самапераканаьне. Кулямёты й танкі бясьсільныя, калі няма волі, калі целам і розумам авалодвае страх за ўласную будучыню. Усьведамленьне ўласнай слушнасьці й гатоўнасьць змагацца без кампрамісаў абяззбройваюць супраціўніка, які прывык да дамінаваньня й безадказнасьці. У "амэрыканцы" я быў сьведкам адной карціны, якую запомню на ўсё жыцьцё. У апошнія дні сьнежня 2010 году, пасьля старту палітыкі прасаваньня, на адным з абходаў да нас у камэру зайшоў дзяжурны. "Маскі" выстраіліся на прадоле насупраць дзьвярэй і ўсім сваім выглядам дэманстравалі нянавісьць і пагарду да нас. У гэты час Анатоль Лябедзька стаў узірацца ўдалечыню, як бы цераз іх, здавалася, што ён і цераз маскі разглядае іхныя твары. Дзяжурны змоўк на паўслове, а "маскі" заёрзалі ды... расступіліся ў бакі. Калі дзяжурны выйшаў, яны зачынілі дзьверы, і ніхто не падняў позірку. Яны былі ўсясільныя, маглі рабіць, што хацелі (і рабілі), але ўсё роўна спалохаліся. Чым вышэй начальнік, тым мацней абставіны ціснуць на яго. Так што ня ўсё так кепска, як здаецца. Рэжымы абрынаюцца ў адначасьсе, гісторыя таму сьведка. Воля больш матэрыяльная, чым эканамічнае бязладзьдзе. Мы бачым, як лібійцы бяруць у рукі зброю, хоць дапамога па беспрацоўю складае 750$. Мы бачым, як сырыйцы штодня выходзяць пад кулі, абы прыбраць зьненавіджанага тырана. Воля перамагае, калі чалавек кіруецца ня дробнымі будзённымі інтарэсамі, але высокімі ідэаламі, каштоўнасьцямі свабоды й справядлівасьці, годнасьці й дабраты. Усё можа быць па-іншаму, няма ніякага лінейнага гістарычнага шляху, усё можна зьмяніць! Што значыць самавызначэньне? Самавызначэньне азначае такую сыстэму, у якой звычайныя людзі могуць без прамаруджваньня й перакручваньня прымаць рашэньне пра тое, як ім жыць. Гэта азначае сыстэму грамадзянскага самакіраваньня на аснове прамой дэмакратыі. Самакіраваньне дае магчымасьць жыхарам кожнай мясцовасьці – вёскі, раёну, гораду – вызначыць найлепшае для сябе ўладкаваньне, зыходзячы зь мясцовых адметнасьцяў і абставінаў. Прамая дэмакратыя – гэта ўдзел саміх грамадзянаў у абмеркаваньні пытаньняў і праблемаў. Анархізм прапануе такую мадэль кіраваньня, у якой стаўка робіцца на шырокія гарызантальныя сувязі, а вэртыкальныя, наадварот, мінімізуюцца. Сапраўднае народаўладзьдзе ўсталёўваецца тады, калі ініцыятыва й воля зыходзяць ад саміх грамадзянаў на месцах. Прыблізная схема выглядае так: жыхары кожнага дому на рэгулярных сходах абмяркоўваюць пытаньні жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, экалягічнае становішча, пытаньні правапарадку й г. д. Выбіраны Дамавы камітэт сочыць за выкананьнем рашэньняў жыльлёвых сходаў і займаецца бягучымі справамі. Камітэт справаздачны выключна сходу: у любы час жыхары могуць памяняць склад Камітэту. Такім чынам, уся ўлада ў межах дому знаходзіцца ў руках саміх грамадзян, што ў ім жывуць. Ніхто ня зможа навязаць жыхарам несправядлівых і шкодных рашэньняў. Дамавыя камітэты дэлегуюць сваіх чальцоў у Камітэт вуліцы, Камітэт вуліцы – у Квартальную (раённую) асамблею. Кварталы фармуюць Гарадзкую раду. Далей, гарадзкія рады й рады сельскіх раёнаў складаюць рады вобласьці/рэгіёну, якія ў выніку ўтвараюць Раду Фэдэрацыі. Што нам дае такая структура й такія прынцыпы? А тое, што кожная службовая асоба імгненна можа быць адкліканай паводле рашэньня ніжэйшай інстанцыі. Больш ня зможа ўзьнікнуць такая сытуацыя, калі чыноўнік адказвае перад вышэйстаячым начальнікам, карыстаецца пратэкцыяй высокіх асобаў і творыць любое бязьмежжа. Вядома, ён жа падсправаздачны не грамадзянам, а толькі сваёй вэртыкалі! Ясная справа, што ў калідорах сучаснай улады сплятаюцца бюракратычныя клубкі, зь якіх не спытаеш і на якіх управы ня знойдзеш. Супольная парука, пратэкцыянізм, безадказнасьць робяць іх непрыступнымі. Сыстэма дэлегаваньня й справаздачнасьці ставіць крыж на бюракратыі як такой. Відавочна, што пры такім уладкаваньні на пасады будуць вылучацца найбольш умелыя й дзелавыя людзі, а не падхалімы. Іншай формай самаарганізацыі грамадзянаў зьяўляюцца аб'яднаньні ды ініцыятывы па любых сацыяльных накірунках ды зацікаўленьнях: экалягічныя, праваабарончыя, пэнсіянэрскія, моладзевыя, культурныя, краязнаўчыя, спартыўныя й г. д. Для вырашэньня сваіх праблемаў і задачаў грамадзкія аб'яднаньні могуць (вольныя) зьвязвацца з інстанцыямі самакіраваньня любога ўзроўню, калі ім неабходна спрыяньне мясцовай супольнасьці. На сучасным этапе тэхналягічнага разьвіцьця (інфармацыйнае грамадзтва) вялікі патэнцыял для самаарганізацыі й самакіраваньня даюць IT-камунікацыі. Яны дазваляюць кампэнсаваць затрымкі ў абмеркаваньні ды прыняцьці рашэньняў, выкліканыя вялікімі памерамі гарадоў, вялікімі адлегласьцямі й вялікай колькасьцю насельніцтва. Больш за тое, новыя тэхналёгіі дазваляюць значна паскорыць камунікацыйныя працэсы. Сацыяльныя сеткі, IT-тэлефанія, мабільны інтэрнэт дазваляюць дасягнуць небывалай апэратыўнасьці. Большая частка насельніцтва ўжо актыўна карыстаецца інтэрнэт-тэхналёгіямі, атрымлівае неабходныя веды, уменьне й культуру віртуальнай камунікацыі. У бліжэйшую пару-тройку гадоў інтэрнэт стане ўсеахопным, па меры пранікненьня сетак трэцяга й чацьвёртага пакаленьняў. Палітыка павінна быць і стане здабыткам кожнага грамадзяніна. Адначасна з самакіраваньнем анархізм вылучае патрабаваньне сацыялізацыі эканомікі. Гэта азначае, што кожны працоўны мае права на долю ў прыбытках прадпрыемства. Для нас непрымальны такі стан грамадзтва, калі меншасьць жыве ў раскошы, а большасьць кожны месяц зводзіць канцы з канцамі. 80% уласнасьці ў краіне належыць дзяржаве, гэтая гаспадарка была створаная ў часы савецкай дыктатуры за кошт цяжкай і часам паднявольнай працы народу. Гэтая маёмасьць павінна знаходзіцца пад кіраўніцтвам працоўнага калектыву, дзе кожны зьяўляецца акцыянэрам бяз права продажу сваёй долі. Калі кожны працоўны стане

*Працяг на 8-й бачыне*

# Еду ў Магадан



Ігар Аліневіч

Заканчэньне з 7-й бачыны

саўладальнікам свайго прадпрыемства, то ягоная праца атрымае дадатковыя матывы й будзе накіраваная на посьпех прадпрыемства, а не атрыманьне выгады любой цаной, як гэта масава адбываецца сёньня. Прадпрыемствы павінны належаць працоўным сындыкатам: гэта забясьпечыць дабрабыт і сацыяльную справядлівасьць. Дадатковай формай самаарганізацыі працоўных зьяўляюцца прафэсійныя асацыяцыі. У іх задачу ўваходзіць маніторынг захаваньня роўных правоў на прадпрыемствах, павышэньне кваліфікацыі сваіх чальцоў за кошт сувязі з навучальнымі цэнтрамі, прадастаўленьне паслугаў працаўнікоў тых спэцыяльнасцяў, якія не прадугледжваюць сталага аб'екту дзейнасьці (будаўнікі, прыбіральшчыкі, кур'еры і да т. п.). Замест судоў, убудаваных у сыстэму вертыкалі ўлады, анархізм прапануе выкарыстоўваць трацейскія суды. Прафэсійны судзьдзя – гэта, перш за ўсё, дзяржаўны чыноўнік, у той ці іншай ступені ён залежны. Мы лічым, што ў судзьдзі павінны трапляць найбольш паважаныя грамадзяне зь ліку добраахвотнікаў. Толькі так можна забясьпечыць па-сапраўднаму незалежную ацэнку. Больш за тое, ні адно злачынства ня можа быць вытлумачана на падставе крымінальных кодэксаў. Кожны выпадак – унікальны, і таму мы выступаем за індывідуальны падыход да кожнай справы, у тым ліку пры вызначэньні пакараньняў. Анархісты – прынцыповыя праціўнікі пазбаўленьня свабоды як меры пакараньня. Бэтонныя засьценкі вядуць толькі да дэфармацыі асобы – або ў бок страты волі, або ў бок зласьлівасьці. Мерамі пакараньня могуць быць грамадзкая ганьба, штраф, грамадзкія працы, часовае ізаляваньне або выгнаньне ў суровую цяжкадаступную мясцовасьць. У асабліва цяжкіх выпадках мы прызнаем права пацярпелага або ягоных блізкіх на помсту. Стаўка робіцца на тое, што ў грамадзтве эканамічнай справядлівасьці злачыннасьць упадзе ў шмат разоў, бо карысьлівыя матывы злачынстваў стануць малаактуальнымі.

На заканчэньне хацелася б пару словаў сказаць пра парлямэнцкую рэспубліку. Праблема такога ўпарадкаваньня ў тым, што яно не адпавядае заяўленым прынцыпам. Так сама, як бальшавікі былі далёкія ад камунізму, так і рэспубліканцы далёкія ад дэмакратыі. У бальшавікоў "дыктатура пралетарыяту" стала тыраніяй партыйнай намэнклятуры. А ў рэспубліцы "ўлада дэмасу" ў рэальнасьці азначае калегіяльнае праўленьне буржуазіі. І так было ад пачатку. Сёньня часта можна пачуць, што прататыпамі рэспублікі былі старажытнагрэцкія полісы. "Афіны – калыска дэмакратыі". Аднак уладкаваньне тых жа Афінаў было нашмат больш сугучнае анархісцкім прынцыпам, чым парлямэнтарыскім. Гісторыя рэспублікі (клясычная Француская рэвалюцыя) паказвае, што яе асноўнаю мэтаю была ліквідацыя ўлады арыстакратыі (на чале з каралём) і духавенства на карысьць трэцяга саслоўя, г. зн. буржуазіі. Выбарчыя правы былі дадзены тым, хто праходзіў маёмасны цэнз. Буржуазія, высоўваючы лёзунг "свабода й роўнасьць", прагла роўна столькі свабоды, колькі патрэбна, каб забясьпечваць у прадстаўнічых органах свае інтарэсы, і роўна столькі роўнасьці, каб выраўняцца ў правах з дваранствам. Вядома, ад гэтых павеваў і народу нешта перапала, напрыклад, свабода слова, сходаў, асацыяцый, але толькі ў абмежаванай меры, якая ня ставіць пад пагрозу саму ўладу буржуазіі.

У выпадку небясьпекі рэспубліка можа быць такой самай бязьлітаснай і жорсткай да сваіх апанэнтаў, як каралі й дыктатары. З часоў першых ліберальных рэжымаў 200-гадовай даўніны адбылася некаторая трансфармацыя: выбарчае права стала ўсеагульным. Але чаму? Таму што ва ўсім сьвеце назіраўся рост і рашучасьць сацыялістычнага руху. Каб выбіць глебу з-пад ног сацыялістаў ды ліквідаваць пагрозу, буржуазія пайшла на зьдзелку з сацыял-дэмакратыяй. Апартуністы атрымалі доступ да ўлады ў абмен на адмову ад рэвалюцыі й клясавай барацьбы. Сацыял-дэмакратычная інтэлігенцыя запрашэньне прыняла й з дапамогаю падкантрольных ёй прафсаюзаў падавіла радыкальныя настроі сярод працоўных і да сёньня займаецца тым самым. Натуральна, фасад рэспублікі стаў "народным", дэмакратыя стала самым ужывальным тэрмінам. Але адно толькі агульнае выбарчае права нічога не зьмяніла: буржуазія хутка зразумела, што сілу розных партый вызначаюць укладзеныя ў яе грошы, а не праграма й лёзунгі. Сумленны чалавек безумоўна прайграе ў выбарчай гонцы несумленнаму, але заможнаму канкурэнту. Вырашаюць рэсурсы выбарчага штабу, узровень паліттэхнолягаў, палітыка папулізму, але не ідэі. Менавіта таму так шмат людзей у цытадэлі дэмакратыі – Эўразьвязе – ня ходзяць на выбары, не цікавяцца сыстэмнай палітыкай. Гэта называецца адчужанасьцю, пачуцьцём абыякавасьці й бессэнсоўнасьці фармальнага спэктаклю.

Вядома, культура й мэнталітэт вельмі многіх людзей сёньня не спрыяе ўдзелу ў самакіраваньні. Але гэты стан – вынік існуючага грамадзкага ўладкаваньня. Каб зьмяніцца, людзі павінны займацца й вырашэньнем пытаньняў, што датычаць іх жыцьця. Рана ці позна даводзіцца ўвайсьці ў ваду, калі хочаш навучыцца плаваць. Дыктатура абыходзіцца з народам, як зь дзіцём, рэспубліка – як з падлеткам, анархія – як з дарослым чалавекам. Самакіраваньне, сацыялізацыя, самаарганізацыя – вось прынцыпы прагрэсіўнага грамадзкага ўладкаваньня. Трыюмф гуманізму, калі свабода, мір і шчасьце стануць магчымыя для кожнага, – вось да чаго імкнецца анархізм.

...Этап. Нават ня ведаю, куды. Забралі раніцай і да вечару ў адстойніку разам зь дзясяткамі іншых бедалагаў. Спрэс моладзь з усёй краіны, разгубленыя й трывожныя твары. Спачатку шмон турэмны, затым шмон канвойны, з гумавымі пальчаткамі ды мэталадэтэктарамі. У адстойніку сустракаюся з палітычным, Кіркевічам: таксама сядзеў у "амэрыканцы", не перастаў гаварыць выключна на беларускай мове, а на Валадарцы сядзеў разам з Колем (Мікола Дзядок асуджаны па той самай справе анархістаў, што і Аліневіч; атрымаў чатыры з паловай гады калёніі агульнага рэжыму. – Рэд.). Дасталі кіпяцільнік, конаўку, п'ем чай. Зноў кілішоўка ў іншы адстойнік. Вады няма. Нарэшце выводзяць. Выстройваемся ўздоўж сьценак пад аркаю двара. Называюць прозьвішча – і з рэчамі ў аўтазак. Разам зь кешарамі набіваемся ў "стаканы", як шпроты ў бляшанку. Вязуць на станцыю. Месца перасадкі ачэпленае, па аднаму, праз калідор з канвайраў, грузімся ў вагоны. Вось ён, знакаміты "сталыпін". Трохпавярховы плацкарт, без акна, адгароджаны ад калідору кратамі. Ярусы з глухой столькю, каб трапіць на наступны, трэба пралазіць у люк. Кітайскі экспрэс.

Вось і ўсё, наперадзе – новая паласа. Што я зразумеў за гэты час? Сапраўднае багацьце – гэта людзі, якія застаюцца з табою, нягледзячы на ўсе ліхія гадзіны. Упэўненым можна быць толькі ў тых, хто дзеліць з табою пакуты, побач і на адлегласьці. Астатняе – крохкае.

Мінулае існуе ў тваіх успамінах, будучыня – ва ўяўленьні, але насамрэч важнае толькі цяперашняе, канкрэтнае імгненьне часу. Мінулае паблякне, яго перакруцяць і пакрыюць хлусьнёй, чаканая будучыня можа так і не настаць, але пагляд назад ды імкненьне наперад напаўняюць сэнсам гэтае самае Тут і Цяпер.

Сёньня свабоды няма. Пакуль існуе дзяржава, мы ня можам быць свабоднымі. Аднак можна дакрануцца да яе, адчуць яе дыханьне, калі змагаешся за яе. Барацьба прыносіць у жыцьцё ўсе тыя пачуцьці й думкі, якія прыдушаныя дзяржаўнай дысцыплінай. У барацьбе за свабоду мы ня толькі набліжаем жаданы дзень перамогі справядлівасьці, але й ратуем сваю ўласную асобу ад шэрасьці быцьця й дэградацыі. Кожны акт вызваленьня мае сэнс Тут і Цяпер. Наперадзе гады змроку ды стратаў, але мяне гэта не засмучае. Чым горш – тым лепш, бо што не забівае, тое робіць нас мацнейшымі. Павярнуць выпрабаваньні, што выпалі, сабе на дабро – вось адзіна правільнае рашэньне. Належыць зьведаць знутры ўвесь гэты сьвет, спароджаны адвечным кругазваротам мільёнаў людзкіх лёсаў у засьценках турмаў і лягераў.

... Цягнік імчыць кудысьці на поўнач. Усе сьпяць, толькі два бывалыя зэкі абмяркоўваюць лягернае жыцьцё ды канваір у бронекамізэльцы павольна прагульваецца па прадоле "сталыпіна". А ў галаве засеў матыўчык песьні з турмы "Еду ў Магадан", і на душы лёгка.

*Лета 2011 г.*

*З расейскай мовы пераклала Валянціна Трыгубовіч.*

# Кніга пра лёсы беларусаў
# Ганна Сурмач. "Беларусь бязь межаў", Менск, 2013




У сёньняшніх умовах, калі ў Беларусі пануе антыбеларускі рэжым, кожная кніга, якая пра нас, беларусаў, - і неабходнасьць, і рэдкасьць, і падзея. Неабходнасьць – бо дае магчымасьць глыбей пазнаць сябе, зразумець сваю ролю, сваю адметнасьць у сусьвеце. І рэдкасьць – бо рэжым робіць усялякія перашкоды, каб такія кнігі не зьяўляліся, каб беларусы не задумваліся над сваім існаваньнем, над прызначэньнем на зямлі, каб сьцерці зь іх памяці ўласную гісторыю і культуру. Рэжым дамагаецца, каб беларусы забыліся чытаць па-беларуску. Такі ёсьць цяпер цяжкі час.

Калі плысьці па цячэньні, то чалавек можа зламацца, зьмірыцца з сытуацыяй, чытаць і гаварыць па-расейску, не супраціўляцца зьнішчэньню і бясконца чакаць лепшых часоў. Але не, гэта не для беларусаў! Гісторыя, культура прыпыняцца ня могуць. І нашыя беларускія кніжкі (нягледзячы на перашкоды) выходзяць у сьвет. І ня толькі ў Беларусі – выходзяць яны і ў замежжы. Цяжкім застаецца пакуль іхны шлях да Бацькаўшчыны, але яны ёсьць, яны зьяўляюцца, і гэта сьведчыць на карысьць нашай сьветлай будучыні.

Выхад новай кнігі Ганны Сурмач "Беларусь бязь межаў" я лічу адметнай падзеяй. Чытаньне яе наводзіць на радасныя і на сумныя разважаньні пра наш народны лёс. Радасныя – бо кніга раскрывае веліч нашай нацыі, нашых беларусаў, якія, аказваецца, ёсьць па ўсім сьвеце і якія ганарацца сваім беларускім паходжаньнем (як казала адна беларуска: "Я была як бы эталёнам беларускай нацыі й старалася яго трымаць"). Гэта кемлівыя, працавітыя прыгожыя людзі, якіх высока ацэньваюць людзі іншых народаў і краінаў, дзе апынуліся беларусы. І сумныя – бо шкода, што яны, харошыя, разумныя, працавітыя беларусы, жывуць, працуюць, аддаюць свой інтэлект і працу (вымушаны аддаваць) на карысьць не сваёй роднай краіны, а на карысьць чужых дзяржаваў сьвету.

Але, калі адыйсьці ад шкадаваньня, то ахоплівае гонар за нас, беларускіх людзей, пра якіх жыхары іншых краінаў сьвету гавораць з захапленьнем: "Вось наша беларуска!.."

З розных прычынаў апынуліся сучасныя беларусы за межамі сваёй Бацькаўшчыны: гэта і палітычныя ўцекачы, і рэпрэсаваныя студэнты, і тыя, хто імкнуўся неяк палепшыць матэрыяльнае жыцьцё за мяжой, і тыя, хто выйграў амэрыканскую "Грын карту", і навучэнцы замежных ВНУ, і студэнты багаслоўя, і працоўныя эмігранты.

Радуешся і ганарышся, калі чытаеш пра тое, як беларусы ў замежжы ня страцілі сваю беларускасьць, маюць свае беларускія цэрквы, свае асяродкі і выхоўваюць у сваіх дзецях беларускі дух: ствараюць нядзельныя школкі, дзе іхныя дзеці вывучаюць беларускую літаратуру, мову, гісторыю, краязнаўства, зьбіраюцца на сьвяты.

Кніга сп-ні Ганны Сурмач выйшла ў мінулым годзе ў выдавецтве "Лімарыус" аб'ёмам у 682 старонкі, фарматам у 1/16 друкаванага ліста і, на жаль, вельмі малым накладам – 300 асобнікаў. Кніга складаецца з трох вялікіх разьдзелаў: "Краіны", "Асобы", "Падзеі".

З першага разьдзелу кнігі ("Краіны") даведваемся мы пра паваенную эміграцыю і пра эміграцыю ў пачатку XX стагодзьдзя, пра канкрэтныя беларускія лёсы, якія прайшлі праз гістарычныя выпрабаваньні. Напрыклад гісторыя сям'і Касьцюкевічаў, якая паходзіла зь вёскі Парэчча пад Гомелем. "Гэтая сям'я адметная тым, што двойчы шукала паратунку ад сваіх бедаў у далёкай Амэрыцы", - апавядае спадарыня Сурмач. Гісторыя, якую яна пачула ад Людзьмілы Колін (бабуля і дзядуля якой эмігравалі ў Амэрыку ў 1913 годзе) як бы і знаёмая: мы ведаем, як за саветамі жылося беларусам. Але, калі чытаеш людзкія расповяды пра іхнае цяжкое жыцьцё, перажываеш чужое гора нанова.

У 1923 г. гэтыя людзі вярнуліся ў Парэчча, мелі сваю гаспадарку, але пачалася калектывізацыя, і бальшавікі ўсё адабралі. Іхная дачка Антаніна ў 1933 г. выйшла замуж, нарадзілася Людзьміла. Дзяўчынцы было тры гадкі, калі яе бацьку па даносу арыштавалі.

Сярод людзей панаваў страх. "Мы ўсе перастрашаныя былі, усе. Яны ж уначы прыходзілі ў розныя хаты, ня толькі ў нашую, - успамінае спадарыня Людзьміла Колін і тлумачыць, чаму прыход немцаў спачатку і не ўспрымаўся, як акупацыя, а як ратаваньне. - Нашыя нас так мучылі, што мы былі радыя, калі немцы прыйшлі". У 1944 г. сям'ю вывезьлі ў Нямеччыну ў працоўныя лягеры, а пасьля вайны зь вялікімі цяжкасьцямі сям'я зноў пачынае жыцьцё ў Амэрыцы.

Старонку за старонкай раскрывае аўтар кнігі гісторыю беларускай эміграцыі. Кароткія расповяды сп-ні Сурмач пра беларускія лёсы ў розных краінах сьвету годныя падрабязных апавяданьняў, і, тым ня меньш, гэтыя сьціслыя расповяды дае глыбокае ўяўленьне пра тое, як цяжка прабіваліся ў жыцьці беларусы першай і другой хвалі эміграцыі.

Са зьместоўнай кнігі "Беларусь бязь межаў" мы даведваемся ня толькі пра асабістыя лёсы беларусаў. Важнае месца тут займае аповяд пра культурніцкае, навукова-дасьледніцкае беларускае жыцьцё ў замежжы, пра гісторыю ўтварэньня Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (БІНіМ), пра выбітных дзеячоў гэтай навукова-дасьледчай установы. У часы СССР, калі беларуская нацыянальная дасьледчыцкая думка магла "разьвівацца" на Бацькаўшчыне толькі пад "савецкім" кантролем, БІНіМ займаўся вывучэньнем гістарычнай і літаратурнай спадчыны, вёў шырокую выдавецкую дзейнасьць эмігранцкай літаратуры, прапагандаваў беларускую культурную спадчыну на Захадзе, выдаў беларуска-ангельскі слоўнік. Інстытут, як зазначыў у інтэрвію спадарыні Ганьне д-р Янка Запруднік, "дакумэнтаваў беларускую думку, прыдушаную на Бацькаўшчыне", і гэтую дзейнасьць беларускай эміграцыі нельга пераацаніць.

Увогуле, нецікавых беларускіх гісторый у кнізе няма. Кожная ўражвае і захапляе. І гэта безумоўныя ўменьне і заслуга аўтара.

Асабліва прыемна чытаць гісторыі сучасных эмігрантаў зь Беларусі, якія (як Аляксандар Муравіцкі з Ірляндыі), расказваючы пра сваё жыцьцё далёка ад Бацькаўшчыны, гаворыць: "Я ведаю, што я вярнуся на Радзіму... Як толькі там усталюецца дэмакратыя, мы вернемся дадому. Сыты жывот тут ня можа затрымаць нас".

Аналізуючы свае маральныя набыткі пад час замежнага жыцьця, беларусы гавораць: "Я вельмі рады, што жыву ў вольнай краіне. Я навучыўся быць свабодным". "Тут ёсьць прымяненьне нашым ведам і здольнасьцям".

Уладкаваць жыцьцё на чужыне нялёгка. Усё, чаго дасягнуў на Радзіме, - тут ня ўлічваецца, і трэба пачынаць усё спачатку.

З кнігі Ганны Сурмач можна даведацца пра беларускую прысутнасьць ва ўсім сьвеце: па ўсёй Эўропе і Азіі, Вялікабрытаніі, у былых рэспубліках СССР, у ЗША, на Філіпінах, у Японіі, у Эквадоры і г.д.

Напрыклад, расповяд пра лёс беларускі Дар'і Ліс, якая з захапленьнем расказвала сп-ні Ганьне пра сваё знаёмства з Індыяй, калі яна там вучылася два гады ў каледжы і якую вельмі ўразілі людзі, прырода, культура. Яна старалася вандраваць па краіне, каб болей даведацца пра яе. Потым вучоба ў Канадзе, падарожжа па Тыбету, далей – ужо сямейнае жыцьцё на Філіпінах, у Маніле.

І ўспомнілася мне маладосьць, калі я, як і Даша, марыла тады болей паезьдзіць па Савецкім Саюзе (замежжа было недаступным для савецкіх людзей). Тады мне здавалася, што сваё, беларускае, пазнаць ніколі ня позна, а пакуль маладая, трэба болей паглядзець "далейшы" сьвет. І толькі апынуўшыся ў вымушанай эміграцыі, я з жалем і болем у сэрцы ўспамінаю свае тыя думкі-жаданьні. Бо наша Беларусь такая багатая, такая прыгожая і вялікая, і шчыміць сэрца, што я амаль нічога толкам і ня бачыла свайго, усё ганялася за "нечым", якое здавалася такім рамантычным і прывабным. О, зараз, зараз мне нічога ня трэба чужога, ну хіба толькі потым, у нейкім трыццатым шэрагу. Мне б пабачыць свае гарады, вёскі, вазёры і рэчкі, надыхацца сваім лесам. Сорам сказаць - ніколі не была на Палесьсі, дзе жывуць (як чула і чытала) вельмі добрыя беларусы; наглядзецца ў нарачанскія далі (якія бачыла, але не наглядзелася), зьезьдзіць на любую Лагойшчыну, у лес каля Ліпску, пахадзіць па нашых дарогах...

Безумоўна, Даша малайчына, што пазнае сьвет. Але... Як мне здаецца з пазыцыяў больш сталага ўзросту, галоўнае ў жыцьці – пазнаць сваё. Бо гэта – сапраўдны скарб для нацыянальна сьвядомага чалавека. І калі гэта нарэшце зразумееш, то часам аказваецца позна... Трэба сьпяшацца ведаць сваё.

Вось такія крыху невясёлыя думкі таксама ўзьнікаюць, калі чытаеш расповяды

*Заканчэньне на 10-й бачыне*

# Кніга пра лёсы беларусаў

Заканчэньне з 9-й бачыны

беларусаў, захопленых чужым сьветам. Так можна і памерці, не спазнаўшы галоўнага. І як важна, каб з дзяцінства Бацькаўшчына, Радзіма Беларусь у сьведамасьці маладых беларусаў станавілася б галоўнай.

Зразумела, зараз на Радзіме цяжка, мусіць, цяжкасьці скончацца ня хутка. І я перажываю за тое, што гэты чужы, абмежаваны, матэрыяльны сьвет можа прывабіць сьведамасьць маладых беларусаў, якія лепшага, свайго так і ня ўбачылі. А нам жа трэба будзе будаваць нашую Бацькаўшчыну, калі зьліквідуем антынародны рэжым. Патрэбныя будуць разумныя і энэргічныя маладыя галовы і сэрцы. Ніхто ж ня зробіць гэту цяжкую працу за нас - беларусаў! Павінны мы самы адрадзіць сваю краіну.

Мне вельмі імпануе расповяд Ганны Сурмач пра жыцьцё і сьветаадчуваньне таленавітага і знакамітага пісьменьніка беларускага замежжа Кастуся Акулы (сьветлая яму памяць), які вучыўся ў афіцэрскай школе Беларускай Краёвай Абароны, ваяваў з гітлераўцамі ў шэрагах францускага Супраціўленьня, ваяваў у Італіі ў Арміі Андэрса, а пасьля вайны жыў у Канадзе. Усё жыцьцё яго непакоіла тое, "што ён зусім мала ведае родную Беларусь" і марыў пабандраваць па Беларусі.

Але гэта адступленьне. Кніга Ганны Сурмач можа ўскалыхнуць розныя пачуцьці і думкі. Адно зь іх - пачуцьцё гонару за нашых беларусаў. Вось, напрыклад, там мы знойдзем імя беларуса Ігната Дамейкі, які (як удзельнік паўстаньня 1831 г.) быў вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну. Ён стаўся нацыянальным героем Чылі (Ігнасіо Дамейка), і чылійцы вельмі шануюць ягоную памяць. Ці Аляксандар Акімаў, які стаўся ганаровым грамадзянінам паўдзённакарэйскай сталіцы. Яму, музыку зь Беларусі, нашаму сучасьніку, нададзены такі ганаровы тытул за адметны ўклад у культурнае разьвіцьцё Сэулу. Пра беларусаў – нацыянальных герояў іншых краін сьвету – нам трэба і важна ведаць як мага больш. Бо гэта – наш нацыянальны гонар.

Цікава расказвае аўтар кнігі пра радню Якуба Коласа ў эміграцыі (што пры саветах старанна хавалася ад беларускага грамадзтва). Прадстаўнікі роду Міцкевічаў (роду Якуба Коласа) у эміграцыі, як сказаў Вітаўт Кіпель, "выявілі сябе такой жа магутнаю, патрыятычнаю, нацыянальна сьведамаю сілаю, як і тая частка роду, якая засталася на Бацькаўшчыне". Беларуская грамада з паваеннай эміграцыі ў Нью-Ёрку ведала спадара Міхася Міцкевіча (ён малодшы брат Якуба Коласа) як моцнага, сьведамага, актыўнага беларуса, які ўсё жыцьцё прысьвяціў Беларусі.

Вельмі зьмястоўны разьдзел кнігі - "Падзеі". Тут больш падрабязна чытаем мы і пра паваенную эміграцыю, і пра ўдзел беларусаў у несавецкіх ваенных фармаваньнях, і пра беларусаў, якія пакутавалі ў сталінскіх лягерах, і шмат чаго іншага.

Кніга "Беларусь бязь межаў", якую падрыхтавала сп-ня Ганна Сурмач, вельмі працаёмкая, грунтоўная і разумная, прыемна зьдзіўляе шырынёй ахопу падзеяў і лёсаў, выяўляе высокі ўзровень аўтара, уменьне ахапіць, здавалася б, неахопнае. Для тых, хто цікавіцца сваімі суайчыньнікамі, землякамі, беларускай гісторыяй, выбітнымі беларусамі – чытайце. Вельмі цікава!

*Галіна Пазьняк*

# Год беларускай культуры

4 сакавіка ў чытальнай залі раённай бібліятэкі Ізяслава распачалося "шэсьце" Году беларускай культуры на Украіне. Першаю вясноваю "ластаўкаю" году менавіта ў Ізяславе стала выстава сродкаў масавай інфармацыі і літаратуры беларусаў сьвету. Перад прысутнымі выступіла загадчыца юнацкага аддзелу бібліятэкі, у якім і разьмясьцілася экспазыцыя выставы, сп-ня Тацьцяна Лісавік. Яна падзякавала кіраўніку беларускай суполкі "Зорка Венера" за дапамогу ў арганізацыі гэтай выставы,а таксама за пастаяннае папаўненьне беларускамоўнымі выданьнямі (кнігі, часопісы, газеты) аддзелу "Літаратура нацыянальных меншасьцяў раёну" (палякаў, беларусаў, яўрэяў, расейцаў). Тыднёвік "Голас Радзімы" ужо другі год запар патрапляе ў бібліятэку адразу ж, як прыходзіць да кіраўніка суполкі з Менску! А з гэтага году да яго далучаны і штомесячнік беларусаў ЗША з Нью-Ёрку "Беларус", які рэдагуе сп-ня Ганна Сурмач, зь якою аўтар гэтых радкоў знаёмы асабіста па МГА ЗБС "Бацькаўшчына", сябрам якой зьяўляюся ад самага пачатку яе ўзьнікненьня і па сёньня.

А зараз непасрэдна пра тое, што ж пабачылі 4 сакавіка на стэлажах і будуць бачыць на іх з мажлівасьцю патрымаць у руках, пагартаць, пачытаць наведвальнікі юнацкага аддзелу Ізяслаўскай раённай бібліятэкі цягам 2014 году. Па-першае, гэта выданьні клясікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове, а раман Я.Коласа "На ростанях" - на украінскай мове; на ёй жа можна пабачыць і зборнік вершаў Еўдакіі Лось "Черемховий поїзд"... Побач з мастацкім альбомам Янкі Купалы "А хто там ідзе?" на мовах народаў сьвету прыцягвае ўвагу прывабна аформлены том вершаў беларускіх паэтаў "Мы беларусы" і шыкоўны расповяд Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род", які дапаможа паглыбіць веды на пытаньне, адкуль паходзіць беларуская нацыя; атлас "БЕЛАРУСЫ", у якім знаходзяцца дадзеныя па этнагеаграфіі, дэмаграфіі, дыяспары і канфэсіях беларускага народу. Ёсьць кнігі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча, Натальлі Арсеньневай, Ніла Гілевіча, Сяргея Законьнікава, Барыса Пятровіча, Таісы Бондар, Анатоля Сыса, Сяргея Панізьніка, Іны Снарскай і інш. Усяго 50 кніжак толькі пісьменьнікаў і паэтаў! А яшчэ ж і выданьні па беларускай культуры - "Гісторыя культуры Беларусі", "Кампазітары Беларусі", "Этнаграфія Беларусі", "Народнае мастацтва Беларусі", выданьні па беларускай гісторыі і шэраг іншых, у іх ліку і альбомы "Флаг і герб беларускай дзяржавы", "Мінск". СМІ прадстаўлены "Голасам Радзімы", "Народнай воляй", "Беларусам", "Нашай нівай", "Нашым словам","Культурай", беластоцкай "Нівай", віленскай "Руньню", латвійскім "Праменем", англамоўнымі "Беларусь" і "Мінскім часам", чэшскаю "Крывіяю", бюлетэнем МГА ЗБС "Бацькаўшчына" "Беларусы ў сьвеце". Сярод часопісаў - апошнія нумары "Роднага слова", "Дзеяслова" і "Мастацтва".

Нягледзячы на цяжкі час, ва Украіне і на нашай Бацькаўшчыне, Год беларускай культуры ва Украіне распачаўся ў правінцыйным Ізяславе і будуць наперадзе ў яго новыя цікавыя мерапрыемствы.

*Пятрусь Капчык, кіраўнік суполкі "Зорка Венера", г.Ізяслаў, Украіна*

# Вядомую дасьледчыцу беларускай гісторыі Алену Глагоўскую звальняюць з Беластоцкага ўнівэрсытэта

Доктара Алену Глагоўскую звальняюць з Беластоцкага ўнівэрсытэта, дзе яна адпрацавала 15 гадоў. За гады сваёй працы на катэдры беларускай культуры яна напісала сотні навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, адрэдагавала 30 кніжак, і гэта няпоўны пералік вынікаў яе працы. Нядаўна доктар Глагоўская атрымала чарговую навуковую ступень.



Рашэньне кіраўніцтва факультэта тым больш зьдзіўляе, што праца выкладчыцы была ацэнена пазітыўна адмысловай камісіяй. Рэктар унівэрсытэта ў Беластоку ў вуснай размове паведаміў сп-ні Глагоўскай, што звальненьне звязанае з фінансавымі цяжкасьцямі ўстановы. Як кажа выкладчыца, калі ўлады ўнівэрсытэта будуць выкарыстоўваць выключна фінансавыя аргумэнты, то катэдра беларускай культуры хутка можа быць поўнасьцю ліквідавана. Ці не ёсьць гэта першы крок да гэтай сумнёўнай мэты?

Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"

*P.S. ( ад Рэдакцыі): Трэба дадаць, што сп-ня Глагоўская зьяўляецца адной з самых актыўных асобаў у беларускім грамадзкім жыцьці ў Польшчы. Яна шмат гадоў узначальвае беларускую суполку ў Гданьску "Хатка". Супрацоўнічае з газэтаю "Ніва", што выдаецца ў Беластоку, часта друкуецца у "Часапісе". Яна шмат зрабіла дзеля ўшанаваньня памяці знакамітых беларусаў як у Польшчы, так і ў Беларусі. Была дэлегаткаю ўсіх зьездаў беларусаў сьвету ў Менску. Гэта яркая, выбітная асоба ў асяродзьдзі беларускай нацыянальнай меньшасьці ў Польшчы, адданая беларуская патрыётка. Яе глыбокія веды у беларускай гісторыі і культуры маглі быць і надалей выкарыстаныя дзеля адукацыі беларускай моладзі ў Польшчы. Аднак, усё гэта не было прынята пад увагу кіраўніцтвам унівэрсытэту, і шаноўная прафэсарка ў сваім яшчэ далёка не старым веку апынулася бяз працы.*

*На здымку: Доктар Глагоўская атрымлівае ўзнагароду ад Беларускага саюзу ў Польшчы за сваю актыўную грамадзкую і навуковую працу.*

# Памяці Рыгора Барадуліна



На самым пачатку вясны, 2 сакавіка 2014, у Менску памёр народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін.

Нарадзіўся ён 24 лютага 1935 году на хутары Верасоўка, Ушацкі раён, Віцебская вобласьць.

Працаваў рэдактарам у розных пэрыядычных выданьнях (сярод іх — газэта «Советская Белоруссия», часопісы «Бярозка», «Полымя»), а таксама ў выдавецтвах «Беларусь» і «Мастацкая літаратура». У выдавецтве «Мастацкая літаратура» працаваў больш за 20 гадоў, працаваў рэдактарам, затым загадчыкам рэдакцыі. У складзе дзяржаўнай дэлегацыі БССР прымаў удзел у 39-й сэсіі Генэральнай Асамблеі ААН (1984).

Друкавацца пачаў у 1953 годзе, першыя вершы былі зьмешчаныя ў газэце «Чырвоная змена». Першы зборнік паэзіі — «Маладзік над стэпам» — выйшаў у 1959 годзе.

Да 25-годзьдзя пантыфікату Папы Рыгор Барадулін пераклаў на беларускую мову кнігу паэзіі Папы Рымскага Яна Паўла ІІ «Рымскі трыпціх» і меў магчымасьць пабачыцца з пантыфікам на асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане 28 чэрвеня 2004 г. У 2005 годзе выйшаў зборнік малітоўнай паэзіі «Ксты». Зборнік «Руны Перуновы» (2006), у які ўвайшла выбраная лірыка, таксама насычаны духоўнымі вершамі.

Пераклаў на беларускую мову творы многіх замежных паэтаў.

Рыгор Барадулін — апошні беларус, якому надалі званьне Народнага паэта (1992). Узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы (1976) за зборнік вершаў «Рум» і пераклады з Фэдэрыка Гарсіі Лёркі, Ордэнам Дружбы народаў, Ордэнам Знак Пашаны, латыскім Ордэнам Трох Зорак (атрымаў званьне Афіцэра Ордэна (4 ступень) 23 красавіка 1997 г.) і мэдалём Францыска Скарыны. Барадулін зьяўляўся Ганаровым доктарам БДУ й ганаровым грамадзянінам Ушацкага раёну.

У 2006 годзе кандыдатура Барадуліна была сярод намінантаў на Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры (за зборнік вершаў «Ксты»).

Паэт вызначаўся сваёй актыўнай і выразнай грамадзкай пазыцыяй, ад самага пачатку падтрымліваў беларускі адраджэнскі рух. 11 сьнежня 2012 разам з іншымі беларускімі пісьменьнікамі падпісаў заяву ў падтрымку украінскага Майдану.

Адзін з бліжэйшых сяброў Барадуліна паэт Генадзь Бураўкін вельмі балюча ўспрыняў сумную навіну: "Адышоў унікальны для Беларусі і ня толькі для Беларусі паэт, апошні паэт незямной красы. Натуральны, моцна беларускі. Паэт такой сілы, што я не магу яшчэ гаварыць пра ягоную веліч, бо гэта вызначыць час. Але шчасьце, што Бог паслаў нам гэтага генія, чараўніка, правідцу. Гэта вельмі рэдка здараецца, што прыходзяць паэты такой сілы. Але шчасьце, што здарылася.

Дарагі Рыгор. Ты з намі. Мы дыхаем з табой. Жывем з табой. Ты будзеш жыць доўга побач з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Васілём Быкавым. Не хачу і магу казаць „жыў". Ня маю права. Ня мела права і здарыцца тое, што здарылася з табой. Ты з намі».

Рыгор Барадулін пры жыцьці ня раз казаў, што хоча, каб месцам яго апошняга супачыну стала малая радзіма. 4 сакавіка народнага паэта Беларусі пахавалі на старых могілках у Вушачах, побач з маці, Акулінай Андрэеўнай.

*Фота, дасланае Сяргеем Панізьнікам*




# Сьв. + Пам. Элеанора Кіркевіч 20.X.1913 – 27.III.2014

У Саўт Рывэры ў штаце Нью Джэрзі пахавалі на могільніку царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай сьв. пам. стогадовую Элеанору (Люсю) Кіркевіч. Родам з Оршы, былая жыхарка Менску, нябожчыца прыехала ў Саўт Рывэр з паваеннай Заходняй Нямеччыны разам з мужам Аўгенам і дачкой Натальляй. Кіркевічы былі актыўнымі сябрамі беларускай грамады ў Нью Джэрзі, удзельнічалі ў грамадзка культурным і царкоўным жыцьці. На вялікі жаль, нябожчыцы давялося дажываць сваё доўгае жыцьцё бяз мужа й дачкі. На той сьвет праводзілі яе, разам з саўтрывэрскімі знаёмымі, зяць Віталі Каракулька й ягоныя дзеці, унукі нябожчыцы, Мікалай і Ніна, жыхары штату Тэксас.

Вечная ёй памяць

# Сьв. + Пам. Кацярына Яцэвіч 28.V.1928 – 27.III.1914

Кацярына (Каця) Яцэвіч, з дому Дашкевічаў, і ейны нябожчык муж Гэнрык – бацькі пяцярых дзяцей, шматгадовыя жыхары Саўт Рывэру. Каця была актыўнай удзельніцай беларускага культурнага жыцьця яшчэ ў паваеннай Заходняй Нямеччыне, адкуль прыехала ў Саўт Рывэр. У Нямеччыне сьпявала, разам зь іншымі Дашкевічанкамі, у хоры Міколы Равенскага, славілася сваім звонкім белым голасам. Працягвала сьпяваць у саўтрывэрскіх хорах, сьвецкім і царкоўным, брала актыўны ўдзел у беларускіх фэстывалях, апісаных у кнізе Янкі Запрудніка, адзначался нацыянальна грамадзкай салідарнасьцю, мела добразычлівы характар, жыцьцёвую зарадлівасьць, прыемна ўсьмешлівы аптымізм.

Людная адпяваньне нябожчыцы ў царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай і разьвітаньне зь ёй на царкоўным могільніку закончыліся памінальным застольлем, у часе якога дачка Нона Яцэвіч, Віктар Тур і Янка Запруднік гаварылі пра выдатныя сямейныя, грамадзкія й чалавечыя рысы характару нябожчыцы.

Вечная ёй памяць!

# Разьвітаньне з Аляксандрам Насевічам (Канада)

Галоўная управа Згуртаваньня беларусаў Канады з глыбокім смуткам паведамляе пра адыход з жыцьця сябра ЗБК Аляксандра Насевіча. Цяжка ўявіць сабе, што яго больш ня будзе з намі. Саша быў актыўным удзельнікам усіх нашых падзей, заўсёды прыносіў з сабой добры настрой і пазытыў. Ён любіў жыцьцё, любіў Беларусь, быў адным з асноўных арганізатараў Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі у 1994 г.

Нашы самыя шчырыя спачуваньні бацькам Аляксандра, яго родным і блізкім людзям.

Разьвітацца з Аляксандрам Насевічам 5 сакавіка прыйшлі многія ягоныя сябры і паплечнікі.

# Паніхіда па Айцу Дзьмітрыю Бажко

Адбылася 9 лютага 2014 у беларускай царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага, дзе раней служыў памерлы. А. Дзмітры прыехаў у Амэрыку, каб падтрымаць тут жыццё беларускай царквы, ён адпраўляў службы па-беларуску. Быў таксама добрым прафэсыйным мастаком, ягоныя абразы выстаўляліся на выставах.

Выказваем ад імя чытачоў газэты шчырае спачуваньне родным і блізкім а. Дзьмітрыя, а таксама ўсім чыкагскім беларусам, што наведвалі гэтую вядомую ў беларускім замежжы праваслаўную царкву, якая гуртавала беларусаў на чужыне і спрыяла захаваньню даўняй беларускай прысутнасьці ў гэтым рэгіёне Амэрыкі.

# Каляндар памятных датаў на люты 2013 году

**5 красавіка** - 15 гадоў таму, у 1999 годзе. памёр Генадзь Карпенка, грамадзка-палітычны дзеяч, навуковец

**7 красавіка** - Сусьветны дзень здароўя

**16 красавіка** - 220 гадоў таму, у 1794 годзе, Якуб Ясінскі ўзначаліў паўстаньне ў Вялікім Княстве Літоўскім

**18 красавіка** - Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясьцін

**18 красавіка** - 200 гадоў таму, у 1814 годзе, нарадзіўся Яўстах Тышкевіч, гісторык, краязнавец

**22 красавіка** - 60 гадоў таму, у 1954 годзе, памёр у Рызе Сяргей Сахараў, культурны дзеяч, этнограф, педагог

**24 красавіка** - Міжнародны дзень моладзі

**24 красавіка** - 125 гадоў таму, у 1889 годзе, нарадзіўся Юры Сабалеўскі, палітычны дзеяч, пасол польскага сэйму, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**26 красавіка** - Дзень памяці ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы

## Сьвяткуем Дзень Волі ў Нью-Ёрку

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), Бруклінскі аддзел БАЗА, Парафіяльная Рада Сабору БАПЦ Сьв.КірылыТураўскага запрашаюць на ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную

**96-м угодкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі,**

якая адбудзецца 23 сакавіка 2014 г. у грамадзкай залі Сабору на 401 Atlantic Ave (Brooklyn).

**У праграме Сьвята:**

урачыстая Багаслужба ў царкве, афіцыйная частка з рэфэратам і віншаваньнямі, мастацкая праграма і пачастунак зь беларускіх страваў, фільмы, сьпевы, новыя знаёмствы і цёплыя сустрэчы з суродзічамі. Прыходзьце зь сем'ямі, сябрамі, зь дзеткамі!

Кошт квітка 25 даляраў.

**Пачатак сьвяточнай імпрэзы ў 12:30**
**Багаслужба ў царкве а 10-й гадзіне раніцы.**

**Даезд: цягнікі Q, B, D, N, R, 2,3,4,5 да прыпынку Atlantic Ave – Pacific Str**
**A, C, G – да прыпынку Hoyt-Schermerhorn**
**F – да прыпынку Bergen Str.**




## Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) паведамляюць,

што 31- я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбудзецца 30-31 жніўня 2014 у беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры на 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне

**Тэма Сустрэчы:**

**"Свабода Палітвязьням, свабода Слова, свабода ад Страху"**

**У багатай праграме:**

- Панэльная дыскусія на тэму Сустрэчы
- Канцэрт з удзелам гурту "Яваровы дюдзі", слаўнага баяніста Аляксандра Севасьцьяна і інш. выканаўцаў з Канады і Амэрыкі, сяброўскія спатканьні, смачная ежа, гістарычныя фільмы, танцы, гульні...
- Мастацкія выставы, сярод якіх фота пра Беларусь Джона Кунстадэра

**Запрашаюцца ўсе зацікаўленыя!**

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Кастусь Вайцяхоўскі | $ 50 |
| Вольга Грышчук (Канада) | $ 200 |
| Жэня Дубяга | $ 50 |
| Вольга Кабяка | $ 50 |
| Вольга і Яўген Кабяка, замест кветак на магілу Міколы Прускага | $ 50 |
| Вітаўт Кіпель | $ 200 |
| Вера Прускі | $ 50 |
| Галіна Руднік (Германія) | $ 100 |
| Сяргей Трыгубовіч | $ 50 |
| Валянціна і Юры Шаўчэнкі (Канада) | $ 90 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя : *BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*